© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 5(112) Верасень 2003 September Год выд. 11.

...Надзею беларусаў на выратаванне ад поўнай русіфікацыі дала распачатая ў сярэдзіне 80-х гадоў перабудова. Пераважная большасць з іх прыхільна паставілася да надання роднай мове статусу адзінай дзяржаўнай у краіне. Пачалося ўздымнае нацыянальна-культурнае адраджэнне, спыніць якое можна было толькі шляхам поўнай рэвізіі прынятага курсу.

І дзяржава ў хуткім часе пайшла на гэта. Пры прэзідэнце А.Лукашэнку была пастаўлена першачарговая задача ў самы кароткі тэрмін юрыдычна "ўраўняць" рускую мову з беларускай. Пра фактычнае іх ураўнаванне і слова не гаварылася, хаця на той час руская мова ў сотні разоў перасягала беларускую па маштабах функцыянавання ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Гэта ў поўнай меры задавальняла зрусіфікаваны чыноўніцкі апарат.

Пагаджалася з такой моўнай палітыкай і значная частка інтэлігенцыі, паколькі на працягу ўсіх пасляваенных гадоў яе рыхтавалі ў рускамоўных навучальных установах. Не дзіва, што да беларускага слова такія "кадры" не цягнуліся. Адарваныя ад нацыянальных культурна-моўных традыцый палітыкі пры згодзе большай часткі інтэлігенцыі ў маі 1995 г., пасля належнай ідэалагічнай апрацоўкі, атрымалі на "рэферэндуме" згоду на юрыдычную роўнасць беларускай і рускай моў. Пры гэтым улады ўсяляк перашкаджалі нацыянальна-патрыятычным сілам давесці народу, што юрыдычная моўная роўнасць прывядзе да таго, што ў нашых варунках фактычна і немінуча пераможа руская мова.

Пры незапатрабаванасці беларускай мовы ў грамадскім жыцці ўдзельнікі так званага рэферэндуму прагаласавалі акурат так, як і разлічвалі арганізатары антынацыянальнай акцыі. У выніку пры прадастаўленні права на нібыта вольны выбар ужывання беларускай і рускай моў у службовым справаводстве, дзейнасці ўсіх устаноў адукацыі, культуры і навукі, сродках масавай інфармацыі, публічных выступленнях, у рознага роду культурна-асветніцкіх, святочных і спартыўных мерапрыемствах і г.д. магчымасці рэальнага выбару людзей пазбавілі: мова суседняй краіны стала паўсюдна выцясняць мову карэннага насельніцтва краіны.

Зараз спрэс стаўка робіцца на рускую, з тым каб паказаць кіраўніцтву Расіі сваю падрыхтаванасць да "зліцця" з ёю ў адзінай дзяржаве. У выніку пры канстытуцыйнай роўнасці беларускай і рускай моваў усё няўхільна ідзе да франтальнага занядбання, адмірання "непатрэбнай" беларускай мовы, а разам з гэтым і этнічнага вынішчэння яе прыродных носьбітаў - - беларусаў.






**Леанід ЛЫЧ,**

*доктар гістарычных навук, прафесар*

# Багна асіміляцыі

Як ні сумна, прыклад ігнаравання дзяржаўнага статусу беларускай мовы паказаў Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь -- той самы вышэйшы заканадаўчы орган, які павінен быць узорам для ўсіх, як трэба шанаваць гэты статус. Але ні Савет Рэспублікі, ні Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу не праводзяць пасяджэнняў на беларускай мове. Тут, як і паўсюдна, пануе і раскашуецца -- адна. І вядома якая. З прынятых парламентам Беларусі за 1997--2000 гг. 450 законаў толькі 9 былі складзены на роднай мове. Гэта не што іншае, як дзяржаўная палітыка дыскрымінацыі беларускай мовы.

Сёння для многіх відавочна, што рэферэндумам 1995 г. улады спалілі мост да будучыні нашага народа. Ад таго моманту пачаўся перыяд сапраўднай моўнай апрычніны. Мэтай жа рэферэндуму якраз і з'яўлялася канчатковае выкараненне беларускай мовы з усіх сфер грамадскай дзейнасці, у выніку чаго яна робіцца непатрэбнай, у тым ліку і ў асабістым жыцці людзей.

Тое, што ў ролі заўзятых апрычнікаў выступіў шматлікі чыноўніцкі апарат, наўрад ці каго здзіўляе. А вось тое, што яны знайшлі сабе апору сярод значнай часткі работнікаў культуры і адукацыі, варта здзіўлення і абурэння. Бо ва ўсіх народаў інтэлігенцыя звычайна -- самая актыўная сіла ў захаванні і ўзбагачэнні сваіх жа этнакультурных каштоўнасцяў. Толькі не ў нас. Прайшоўшыя школу ў рускамоўных навучальных установах, пазбаўленыя нацыянальнага духу беларускія настаўнікі, дзеячы культуры і іншыя катэгорыі інтэлігенцыі ў асноўнай сваёй масе аказаліся не толькі няздольнымі стаць на абарону роднай мовы, а, наадварот, выявілі нават нейкую зацятасць у выштурхоўванні яе са сваіх устаноў. І аб гэтым, як ні горка, трэба сказаць адкрыта, у вочы. Такога дзікунства ніколі не назіралася ў народаў са здаровай нацыянальнай самасвядомасцю.

У цывілізаваным свеце ўжо даўно стала нормай, што ў кожнай дзяржаве, дзе тытульнай з'яўляецца адна нацыя, у грамадскім жыцці выкарыстоўваецца яе родная мова. Больш таго, вельмі часта выкарыстоўваюць адну мову нават і тады, калі дзяржава з'яўляецца поліэтнічнай -- да прыкладу, Расійская Федэрацыя: там гэтую функцыю спрэс на ўсёй тэрыторыі выконвае руская мова. Зразумела, падобную практыку ніяк нельга апраўдаць, бо калі народ той ці іншай шматэтнічнай краіны жыве на сваёй гістарычнай тэрыторыі, а сферу яго грамадскай дзейнасці запаланіла не родная мова, яму ў любым выпадку наканавана паступовае выміранне. Ён немінуча страціць сваю этнакультурную самабытнасць і растворыцца ў асяроддзі таго народа, чыю мову яму навязалі.

Не лічачыся са станоўчай практыкай цывілізаваных краін па рэгуляванні моўных працэсаў, калі найперш абараняецца нацыянальны інтарэс, сучасныя ўлады ў Беларусі працягваюць курс на свядомае стрымліванне пашырэння роднага слова. І гэта выклікае заканамерны пратэст у неабыякавых да лёсу Бацькаўшчыны людзей. Улады ж не спыняюцца на ўвесь голас заяўляць, нібыта ў краіне ажыццяўляецца палітыка дзяржаўнага беларуска-рускага двухмоўя і няма моўных праблем! Гэта і блізка не адпавядае рэчаіснасці.

Але ні ў якім разе нельга ўсё зводзіць толькі да фармальнага забеспячэння за беларускай мовай статусу дзяржаўнай. **Нельга ігнараваць такую немалаважную акалічнасць: зараз у нашых рэспубліканскіх органах улады і кіравання прыкладна палова агульнай колькасці работнікаў прыпадае на прадстаўнікоў некарэннай нацыянальнасці, ды і з беларусаў бадай не больш як толькі 5--10 працэнтаў валодаюць роднай мовай.** Разлічваць у падобных варунках на іх прыхільнасць да замацавання рэальнага статусу нашай мовы як адзіна дзяржаўнай няма аніякіх падстаў. Неабходна, лічу, ратацыя чыноўніцкага апарату, арганізацыя са службоўцамі спецыяльных заняткаў па вывучэнні мовы. Без валодання ёю ніхто не павінен знаходзіцца на кіраўнічых пасадах.

Масавым адрывам беларусаў ад роднай мовы наша краіна б'е ўсе сусветныя рэкорды па культурна-моўнай асіміляцыі. А тут жа -- дзесяцімільённы народ -- з багатай гісторыяй, з разнамайтай, самабытнай культурай. Толькі пры наяўнасці ўласнай дзяржаўнасці сёння ён цалкам застаецца ў асіміляцыйнай багне. І ніякіх сур'ёзных прыкмет не падае на самавыратаванне.

І што дзіўна: у гэтым пад'ярэмным стане прывольна пачуваюць сябе многія дзяржаўныя кіраўнікі, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Паасобныя небаракі, нават прафесійна працуючы на ніве беларускай нацыянальнай культуры, ужо да такой ступені паддаліся русіфікацыі, што без паперкі не могуць весці дыялог на беларускай мове. Хто б што ні казаў, а гэта ўжо практычна сыход з гістарычнай арэны беларускага народа, яго вялікая трагедыя. Па сутнасці здзяйсняецца тое, да чаго нас рыхтавалі ад першых дзён далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795).

Аналага такой франтальнай культурна-моўнай асіміляцыі, як гэта адбылося з намі і працягвае мець месца на пачатку XXI стагоддзя, не ведае сусветная практыка. Гэта пераканаўча даказвае, што сапраўднай нацыянальнай дзяржавай не з'яўляліся ні Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, якая існавала са студзеня 1919 да верасня 1991 года, ні сучасная Рэспубліка Беларусь. Каб яны адпавядалі статусу нацыянальнай дзяржавы, то не аддалі б на поўнае

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць погляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

зняважанне адну з самых багатых і прыгожых славянскіх моў, -- не выцеснілі б на задворкі нашу культуру. І пакуль нашай мове не будзе адведзена належнае месца ў грамадскім жыцці -- а гэта абавязак найперш дзяржавы, а не адных толькі самаадданых рупліўцаў роднага слова, -- свет не ўспрыме Беларусь як суверэнную краіну, а будзе атаясамліваць яе з перыферыяй Расіі. Калі ўсё пакінуць так, як яно ёсць зараз, беларусы апынуцца канчаткова ў становішчы эмігрантаў на сваёй зямлі. А затым і наогул непазбежна будуць паглынуты як нацыя.

Рэферэндумам-95 пасадзіў свой тытульны народ на чужы моўны корань. Палітыкі і пастаўленая ім на службу частка інтэлігенцыі з упартасцю, вартай лепшага прымянення, пераконваюць беларусаў, што ў іх, у адрозненне ад іншых народаў планеты Зямля -- дзве адналькава родныя мовы: свая і руская. І нібыта няма "нічога такога" ў тым, што спрэс адна руская мова выкарыстоўваецца ў афіцыйным жыцці паўсюдна.

Экстрэмальная моўная сітуацыя ў краіне вымагае ад палітыкаў і інтэлігенцыі неадкладна ўзняцца загрунтоўнае вывучэнне і ратаванне роднага слова тытульнай нацыі, -- так, як гэта зрабілі падчас міжваеннай беларусізацыі высокія дзяржаўныя і партыйныя дзеячы былой БССР. Тое быў станоўчы прыклад, варты перайманья.

**Каб хутчэй спыніць раўназначную гібелі асіміляцыю беларускага народа, трэба неадкладна надаць роднай мове статус адзінай дзяржаўнай. Гэта будзе вяртаннем гістарычнай справядлівасці, бо да далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі руская мова тут не функцыянавала. У наш край яе занеслі чыноўніцкі апарат царскай Расіі, Руская Праваслаўная царква, руская сістэма адукацыі. З іх рукі, што жорстка падаўляла любое супраціўленне, узгадавана не адно пакаленне, якое на чужое глядзіць як на сваё, а на сваё як на чужое. Лічу небяспечным для будучай краіны тое, што адарваныя ад уласных каранёў асобы пераважаюць сёння ва ўсіх эшалонах улады і не пускаюць нікуды роднае слова, садзейнічаюць далейшай русіфікацыі.**

Увесь цывілізаваны свет у недаўменні, чаму беларусы не пасылаюць сваіх дзяцей у беларускія школы, чаму ў Рэспубліцы Беларусь практычна скрозь чуваць толькі руская мова? Усё проста: пасылаць ужо няма куды. Дзяржаўная ж палітыка рускай культурна-моўнай асіміляцыі доўжыцца ў нас больш за 200 гадоў! І трэба яшчэ нізка пакланіцца нашаму народу, што, насуперак гэтаму, ён да канца не забыўся на сваю родную мову і яшчэ ў стане вылучыць з уласнага асяроддзя здольных да актыўнай нацыянальнай дзейнасці сыноў і дачок, абаронцаў і творцаў яе будучыні і духоўна-культурнага набытку.

У мяне няма сумнення ў тым, што руйнаванне культурнага жыцця беларусаў, якое ўжо трэцяе стагоддзе мэтанакіравана вядзецца на нашай гістарычнай тэрыторыі ў форме русіфікацыі, хутка спрычыніцца да знікнення ў Еўропе аднаго з народаў з багатым гістарычным мінулым, самабытнай духоўнай спадчынай. Усе нацыянальна свядомыя грамадзяне нашай краіны шчыра спадзяюцца на практычны ўдзел сусветнай цывілізацыі ў вырашэнні лёсавызначальнага беларускага пытання, сутнасць якога гучыць у вуснах шэкспіраўскага Гамлета: "Быць ці не быць?".

&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&&

## На 1000 шлюбаў — 668 разводаў

За шэсць месяцаў гэтага года ў Беларусі зарэгістраваны 25.543 шлюбы, што на 2,5 працэнты менш, чым за адпаведны мінулагодні перыяд.

Менш стала і разводаў. Іх колькасць знізілася на 9 працэнтаў — з 18.749 да 17.055. Як паведамілі ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу, калі ў першым паўгоддзі 2002 года на 1000 шлюбаў прыпадала 714 разводаў, то ў студзені—чэрвені гэтага — 668.

**********************************************



Васіль ЯКАВЕНКА

# Буралом на ніве адукацыі

Год таму ў Доме літаратара на Фрунзе, 5 у Мінску праходзіў Міжнародны сімпозіум аб разнастайнасці моў і культур у кантэксце глабалізацыі. Было шмат цеплыні і не меней даверу, сардэчнасці ва ўзаемаадносінах гасцей і гаспадароў гэтага найважнага форуму, які праводзіўся пад эгідай ЮНЕСКА і ў якім прымалі ўдзел вучоныя, мовазнаўцы, культуролагі, гісторыкі, філосафы ды, само сабой, літаратары больш як з 20 краін свету. Сам пан Каіціра Мацуура, Генеральны дырэктар арганізацыі ААН па адукацыі, навуцы, культуры (ЮНЕСКА), прыехаў з Парыжа і выступіў на сімпозіуме з прадмовай.

"Разнастайнасць культур з'яўляецца агульначалавечым багаццем, крыніцай заможнасці, якая ўвесь час аднаўляецца ў выніку чалавечай дзейнасці. А мовы -- гэта адзін з найбольш каштоўных чалавечых скарбаў. Гэта не толькі сродак перадачы інфармацыі, але і цэлы космас значэнняў, з дапамогай якіх можна тлумачыць свет, ствараць сімвалы і вызначаць каштоўнасці", -- сказаў ён.

Не для ўсіх было зразумелым адно: дзеля чаго Саюз беларускіх пісьменнікаў раптам ініцыяваў ды пры падтрымцы шэрагу грамадскіх аб'яднанняў і дзяржаўных устаноў, у тым ліку і Міністэрства адукацыі краіны, правёў гэты форум?

А чаму было не правесці? Надта ж трывожна складалася сітуацыя з вывучэннем, ужываннем, шырокім, як мае быць, дзяржаўным выкарыстаннем беларускай мовы -- мовы тытульнай нацыі. І цяпер мне, каардынатару праекта сімпозіума, лучыць прызнацца, што за асноўную мэту ў гэтай нашай міжнароднай акцыі, дзе, апроч чыннага двухдзённага сімпозіума, папярэдне было праведзена каля дзесятка тэматычных "круглых сталоў", ставілася прапаганда, так, прапаганда ў беларускім грамадстве Усеагульнай Дэкларацыі ЮНЕСКА аб культурнай разнастайнасці і ў цэлым палітыкі міжнароднай супольнасці ў адносінах да моў і культур невялікіх, а тым больш карэнных народаў. Думалася ж: нашы чыноўнікі -- таксама людзі і грамадзяне сваёй краіны. А раптам, чуеце, яны наслухаюцца (на сімпозіуме) разумных людзей, спецыялістаў у галіне адукацыі, якая фарміруе духоўнае аблічча народа, адчуюць літаральна сваёй скурай, які ў Еўропе і па ўсёй планеце гаючы вецер дзьме (насупраць буралому), і, нарэшце, адумаюцца, перастануць руйнаваць і нішчыць сваю мову, культуру.

Варта зазначыць, што міністр адукацыі нашай краіны Пётр Іванавіч Брыгадзін быў тады, як нам падалося, вельмі далёкі ад усведамлення нацыянальнай драмы, што разыгрывалася (з ягоным непасрэдным удзелам) у сістэме вышэйшай, сярэдняй і прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Менавіта ў ягоным міністэрскім, залітым сонцам кабінеце прагучалі словы: "Не хвалюйцеся (а хваляваліся пісьменнікі. -- В.Я.) -- мова не знікне. Намі заўважана тэндэнцыя: чым больш мы прыціскаем, тым больш жадаючых вучыцца па-беларуску!".

Ці не дзіва пачуць гэткія словы? Сапраўды, у краіне шмат жадаючых вучыцца па-беларуску? У Беларусі з 10-мільённым насельніцтвам каля 82 працэнтаў насельніцтва лічаць сябе беларусамі. Толькі ж ці ўсе яны мелі і маюць магчымасць атрымліваць адукацыю на роднай мове? На ўсіх узроўнях -- ад дзіцячых дашкольных устаноў да вышэйшай школы?.. Не-е! І міністр гэта ведае. У Мінску -- сталіцы суверэннай нашай дзяржавы -- засталося ўсяго некалькі беларускамоўных школ з іх 6,4 працэнтамі вучняў. Багата ў якіх гарадах і раёнах краіны -- ніводнай беларускай школы. Ніводнай вышэйшай навучальнай установы ў краіне! І ў гэтай да дзікага парадаксальнай сітуацыі ў самым цэнтры Еўропы з вуснаў высокапастаўленых асоб горда, уявіце, горда (за свой народ ці што?) гучыць: "Намі заўважана тэндэнцыя: чым больш мы прыціскаем...".

Многія ўвогуле баяцца разважаць на беларускай мове. Страх уласцівы асабліва начальнікам, каб, крый Божа, іх не папікнулі здрадай дзяржаве, якая шукае сваю ідэалогію і... наўрад ці знойдзе. Бо, як слушна заўважыў філосаф У.Конан: "Нацыя -- мэта". Гэтак -- заўжды ў людзей. І ўжо пад мэту, ці паводле яе фарміруецца ідэалогія. А дзяржава, піша ён, -- сродак кансалідацыі нацыі. І далей літаральна: "Нацыя далучаецца да вечнасці праз сваю мову і культуру, сімвалічна выяўленую ў нацыянальнай мове".

То куды ж болей ціснуць і, галоўнае, навошта ціснуць на суверэнны люд? Як зразумець вас, васпане ў міністрах?

Пытанне, аднак, павісла ў паветры і дагэтуль вісіць.

На сімпозіуме багата якія паведамленні і даклады з Беларусі чырвонай ніткай прашывала думка: беларуская мова і культура свядома разбураюцца -- ужо не адно стагоддзе, але ж асабліва актыўна, цынічна, нахабна -- на нашых вачах. Прычым Мінадукацыі паскарае гэты працэс, міністэрства не выконвае нават свае пастановы, а дакладней -- "Праграму дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы", зацверджаную яшчэ 27.08.2002 г. (пры былым міністры сп.Стражаве). Не выконваецца і Закон "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" у тым, што тычыцца гарантый на права выбару мовы навучання, да рэалізацыі якога грамадзяне часам даходзяць праз пракуратуру і суд.

Найбольш яскрава становішча было намалявана ў дакладзе паэта, філосафа Леаніда Яўменава:

"Белорусы, являющиеся физическим большинством и титульной государственной нацией в своей стране, продолжают оставаться культурным и лингвистическим меньшинством. Целенаправленно подавляемые русским языком и русской культурой белорусская культура и белорусский язык и в царские, и в советские, и в постсоветские времена были и до сих пор остаются в своей стране дискриминируемым достоянием меньшинства. Вымирающей культурой. Вымирающим языком. Это может привести к полному исчезновению нации. Проимпериалистические, шовинистические русофильские силы в Беларуси делают все от них зависящее, чтобы процесс этой "меньшевизации" белорусской национальной культуры в Беларуси, процесс умирания одного из наиболее богатых славянских языков нарастал".

Аб дыскрымінацыі беларускамоўнага насельніцтва яскрава даводзілі Зінаіда Дудзюк, Эрнест Ялугін, Алена Анісім і многія іншыя. "Падаўленне нацыянальнай мовы, крытычнае паніжэнне яе актыўнага функцыянавання на дзяржаўным і грамадскім узроўнях ёсць генацыд, які павінен карацца нацыянальнымі і міжнароднымі законамі як цяжкае злачынства", -- падсумаваў У.Конан. Адно, каб яшчэ больш прынізіць ролю і значэнне беларускай мовы, Мінадукацыі падчас падрыхтоўкі да сімпозіума адмяніла ў сярэдніх школах экзамен па беларускай мове.

І вось мінуў год. Што далей? Як і наколькі палагоднелі пасля сімпозіума, пераарыентаваліся, прыхінуліся да беларускай мовы і культуры нашы чыноўнікі? Эге-е!.. Не на тых разлічвалі! Шмат прыкладаў маем адваротнага кшталту. Яскравыя сведчанні: за адзін год закрыты 152 беларускія школы... У беларускамоўныя першыя класы летась на Міншчыне і ў Мінску пайшло адпаведна 38,2 і 2,9 працэнта вучняў! Для параўнання: у 1994 годзе было 91,3 ды 58 працэнтаў. І гэтак іх мала цяпер не па прычыне дрэннага стаўлення бацькоў да навучання дзяцей на роднай беларускай мове, а па прычыне небеларускай палітыкі Мінадукацыі, міністэрства, якое здратавала ранейшую сістэму асветы і не распрацавала новай, каб з дзяцей выраслі не іншаземцы, не манкурты, а паўнакроўныя, адухоўленыя, з непадрэзаным гістарычным і патрыятычным карэннем беларусы.

У заключным дакуменце ўдзельнікі Міжнароднага сімпозіума выказалі сваю занепакоенасць моўнай сітуацыяй на Беларусі, якая (сітуацыя) "не адпавядае прынцыпам захавання і развіцця нацыянальных культур і ўзмацняе разбуральныя працэсы ў культуры ў век інтэграцыі". Сімпозіум выказаўся за захаванне этнакультурнай самабытнасці і зазначыў, што праблемы нацыянальнага культурнага развіцця павінны знаходзіцца ў цэнтры ўвагі ўсіх дзяржаўных, грамадскіх і прыватных структур.

У пераліку рэкамендацый, дарэчы, запісаны пункт аб стварэнні і ўдасканаленні механізмаў абароны і свабоднага развіцця беларускай культуры, і ў гэтым кантэксце -- адкрыццё беларускамоўнага ўніверсітэта або пертварэнне Белдзяржпедуніверсітэта імя Максіма Танка ў Нацыянальны педагагічны ўніверсітэт. Гэта -- як мінімум. Але ж на заклікі і рэкамендацыі Міжнароднага сімпозіума аб разнастайнасці моў і культур у кантэксце глабалізацыі кіраўнікі Мінадукацыі і вухам не павялі.

Больш за тое, напрыканцы мая гэтага года, працягваючы наступ на чынныя астраўкі беларускасці, якія пакуль яшчэ не змыты хвалямі русіфікацыі і ірадаманіі, яны пачалі наступ на Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа ў Мінску, адзіны ліцэй падобнага профілю. Дарэчы, такое было ўжо... Колькі год таму "бацькі" нацыянальнай адукацыі наважыліся адабраць памяшканне ў ліцэя і гэтак зусім развітацца з ім, але ж бунт бацькоў і дзяцей-ліцэістаў сарваў іхнія планы.

Цяпер міністэрства вырашыла заслаць у ліцэй "свайго" чалавека, які б, вобразна кажучы, падарваў гуманітарны ліцэй знутры, навязаўшы яму чужы дух, новыя праграмы і планы. Прынамсі, педкалектыў ліцэя адчуў такую небяспеку. І ніякія пратэсты, прашэнні, хадайніцтвы бацькоў перад міністрам П.Брыгадзіным не дапамагаюць.

Складваецца ўражанне (відавочна, не ў аднаго мяне), што ў Беларусі ідзе зачыстка адукацыйнай прасторы з выбаўленнем яе ад патрыятычна настроеных кадраў, настаўнікаў, дырэктараў. Гэта пацвярджаецца не толькі фактам грубага адміністравання і зняважлівых адносін кіраўнікоў міністэрства да Уладзіміра Коласа, заснавальніка Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя, але і звальненнем з працы настаўніка Андрэя Аляхновіча ў Крупках, Алеся Сядзякі, дырэктара СШ № 2 ў Мінску. Усе яны выдатныя і незвычайкавыя да лёсу дзяцей педагогі, чаму і заўважаны на ўдзеле ў грамадскім жыцці, напрыклад, у выбарах, са сваімі поглядамі на

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



рэчы. А гэта ж на сённяшні дзень -- крамола. Таму неяк і няёмка ўжо цытаваць радкі з даклада, зробленага на тым жа сімпозіуме А.Вайтовічам, акадэмікам, старшынёй Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь: "Беражыце і шануйце родную мову -- гэта не толькі наш нацыянальны скарб, гэта і скарб сусветнай культуры".

А што ж Пётр Іванавіч Брыгадзін? Можа, ён не разумее, якое злачынства творыцца перад нацыянальнай культурай і тым, што з'яўляецца рошчынай гэтай культуры, -- нацыянальнай адукацыяй? Ці ён нявольнік таксама і мае пэўнае заданне на знішчэнне беларускай мовы, беларускага духу, матэрыяльнай і духоўнай культуры народа. з якога выйшаў?.. Размовы ж, якія я меў з беларусабоязнымі, беларусафобістымі чыноўнікамі сістэмы адукацыі, наводзяць на думку, што яны замбіраваныя.

Хіба не таму шмат якімі дзяржаўнымі мужамі не ўспрымаюцца ні крык душы беларуса, ні парады і рэкамендацыі сусветна прызнанай арганізацыі ААН -- ЮНЕСКА? " Narodnaja Vola "

# Пра самае галоўнае

## Суверэнітэт -- гэта...

У інтэрв'ю прэзідэнта РБ беларускім тэлеканалам 30 чэрвеня прагучала пытанне: што для вас азначае суверэнітэт? Паслухаўшы адказ Аляксандра Рыгоравіча, я стаў разважаць: а што асабіста для мяне азначае гэтае жыццёва важнае пытанне? Мае думкі такія.

Суверэнітэт -- гэта калі ў маёй сям'і ўсе здаровыя, дзеці знайшлі сваё месца ў жыцці, я сам атрымліваю годную пенсію ці заробак, каб хапала добра харчавацца, апранацца, за розныя паслугі разлічыцца, хаця б час ад часу адпачываць па-людску на курорце ці ў турыстычным падарожжы.

Але нічога з гэтага ў мяне не збылося. Пенсіі ледзь хапае на аплату камунальных паслуг ды вельмі сціплае харчаванне.

Суверэнітэт -- гэта калі я маю права без усялякага страху ўдзельнічаць у грамадзянскіх акцыях, патрабуючы ад дзяржавы стварыць умовы для паляпшэння жыцця простага чалавека, пра клопат аб якім так многа гаворыцца, але мала робіцца.

У нас жа ўдзельнікаў такіх акцый затрымліваюць, збіваюць, судзяць, штрафуюць, кідаюць на нары.

Суверэнітэт -- гэта калі ў краіне паважаюць гістарычную спадчыну і сімволіку: бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня" з іх гордай шматвяковай "біяграфіяй", калі я маю права карыстацца гэтай сімволікай паўсюдна і прылюдна. Але дзе тое вы бачылі?

Суверэнітэт -- гэта калі я святкую Дзень незалежнасці сваёй краіны тады, калі тое прызначыла сама гісторыя, а не прыдумаў нехта. Гэтым днём я лічу 25 сакавіка, у які ў 1918 годзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Калі б не БНР, не было б і сучаснай Беларусі. Хто гэтага не ведае? Пэўна, нашы ўлады і затлумленыя афіцыйнымі СМІ абывацелі.

Суверэнітэт -- гэта калі навучанне ў школах, каледжах і ВНУ ідзе пераважна на роднай мове, а іншыя, у тым ліку і руская, вывучаюцца як замежныя.

Суверэнітэт -- гэта калі апаненты ўладзе не знікаюць бясследна, а бесперашкодна дапускаюцца ва ўсе сродкі масавай інфармацыі. Калі не пераследуюць незалежныя выданні і журналістаў за праўдзівыя артыкулы пра нашу рэчаіснасць.

Суверэнітэт -- гэта калі ў краіне паважаюцца і выконваюцца ўсімі без выключэння грамадзянамі, установамі, ўладнымі структурамі, кіраўніком дзяржавы Канстытуцыя і заканадаўства краіны. Калі пільна абараняюцца правы чалавека, выконваюцца міжнародныя пагадненні, Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, прынятая ААН. Назіраем жа якраз адваротнае.

Суверэнітэт -- гэта калі краіна мае свае ўласныя грошы, устойлівую валюту, а на грашовых банкнотах -- выявы слынных сыноў Бацькаўшчыны, якія навечна ўвайшлі ў нашу гісторыю. Сярод іх -- Рагвалод, Усяслаў Чарадзей, Еўфрасіння Полацкая, Вітаўт, Францішак Скарына, Леў Сапега, Кастусь Астрожскі, Тадэвуш Касцюшка, Кастусь Каліноўскі, Янка Купала, Якуб Колас, Васіль Быкаў і шмат хто іншы.

Суверэнітэт -- гэта калі я гуляю па вуліцах і плошчах свайго горада і чытаю на шыльдах беларускія назвы, беларускія імёны -- хіба ў нас няма каго ўвекавечваць? Пакуль жа нярэдка -- імёны тых, каго не назавеш прыхільнікам незалежнай Беларусі.

Суверэнітэт -- гэта... Але чытачы "Народнай волі" самі могуць прадоўжыць уласныя разважанні на гэтую тэму, якая кранае лёс усіх і кожнага, нават калі хто і не ўсведамляе гэтага.

Суверэнітэт і незалежнасць нашай краіны зараз пад вялікай пагрозай -- нягледзячы на ўзнікшую апошнім часам "незалежніцкую" рыторыку з дзяржаўных трыбун. У мяне асабіста няма веры тым словам, бо на справе робіцца зусім іначай.

Усе мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, сацыяльнага становішча, узросту павінны абараніць сваю краіну, яе суверэнітэт, калі пануючая зараз улада паспрабуе аддаць Беларусь у склад суседняй Расіі. Мы там ужо былі аж два стагоддзі. Урокі ж гісторыі трэба ўлічваць, каб не застацца зноўку ля разбітых ночваў.

Ілля КОПЫЛ, жыхар Мінска. /Н.В./

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# „Gazeta Wyborcza" пра русыфікацыю Беларусі

Цэнтрысцкая ўплывовая „Gazeta Wyborcza" зьмясьціла шырокую публікацыю пра спосабы русыфікацыі Беларусі прэзыдэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Русыфікацыя грамадзкага жыцьця ў Беларусі прагрэсуе – заўважае менскі карэспандэнт штадзёнкі Цэзары Галіньскі.

Улады ў Менску сапхнулі „Сталіцу" – адзіную радыёстанцыю, якая вяшчае па-беларуску – з дыяпазону ФМ у дыяпазон ультракароткіх хваляў, якія можна знайсьці толькі ў старэйшых радыёпрыёмніках ды ў г.зв. радыёкропках. У аўтамабілі альбо дома, дзе няма старога прыёмніка, ужо нельга будзе паслухаць перадачу па-беларуску. Па словах старшыні дзяржаўнай Тэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова, месца „Сталіцы" зойме новая радыёстанцыя Радыюс ФМ, якая будзе мець формулу „гарадзкога гіта" й будзе надаваць 20 гадзін у суткі па-расейску музычна-забаўляльную праграму, скіраваную да актыўнага слухача ва ўзросце ад 18 да 27 гадоў. Тымчасам такіх радыёстанцыяў ёсьць ужо 10 – адзначае на старонках „Gazety Wyborczej" Ц. Галіньскі.

Адбываецца гэтак, нягледзячы на тое, што беларсукая мова была прызнаная роднай мовай 85% жыхароў Беларусі. Аднак у штадзённым жыцьці карыстаецца ёю толькі 37%. У 10-мільённай Беларусі асноўнае насельніцтва беларускае – 78%. Да расейскай нацыянальнасьці прызнаецца 11% жыхароў. Другой нацыянальнай меншасьцю зьяўляюцца палякі – 3.9%.

З моманту, калі краінай пачаў кіраваць Аляксандар Лукашэнка, які сам вельмі неахвотна размаўляе па-беларуску, па-за выдзеленымі энклявамі – культурнымі ўстановамі – карыстаньне беларускай мовай у Беларусі ўспрымаецца як прызнаньне да дзейнасьці ў антыдзяржаўнай апазыцыі. Ужо некалькі гадоў таму, на пачатку ўлады А. Луканэнкі, калі карэспандэнт "Gazety Wyborczej" адазваўся па-беларуску ў аўтобусе, сустрэўся са зьдзіўленьнем пасажыраў і насьмешкай, што, відаць, зьяўляецца эмігрантам з Канады. Пару гадоў таму незалежныя СМІ падалі шакуючую вестку – трое маладых чалавек былі затрыманыя міліцыяй за тое, што адважыліся па-беларуску размаўляць у публічным месцы.

На пачатку 90-х гадоў, пасьля атрыманьня Беларусяй незалежнасьці, было інакш – прыгадвае Ц. Галіньскі. Была прынятая праграма павольнага пераводу цягам 10 гадоў на беларускую мову дзяржаўных установаў. Здавалася, што існавалі шанцы рэалізаваць гэта – сказаў „Gazecie Wyborczej" Зьміцер Падбярэскі, былы тэлежурналіст і журналіст Радыё 101,2. Тагачасны кіраўнік тэлевізіі Генадзь Бураўкін – знакаміты паэт і былы амбасадар Беларусі пры ААН – запатрабаваў, каб кожны журналіст умеў размаўляць па-беларуску. А цяпер турысты, слухаючы радыёперадачы, ня здолеюць сарыентавацца - у Беларусі яны, ці ў Расеі. Радыюс ФМ – гэта ж чарговае расейскае радыё.

Зьміцер Падбярэскі прыгадаў, што падобным чынам зьнікла з эфіру 10 гадоў таму „Беларуская Маладзёжная, якая перад першымі прэзыдэнцкімі выбарамі запрашала ў студыю А. Лукашэнку, якога тады ніхто не любіў. Потым зачыненая „Маладзёжка" пераўтварылася ў незалежнае беларускамоўнае Радыё 101,2, якое канкуравала на рынку зь некалькімі расейскамоўнымі станцыямі. Яно таксама было зачыненае – 5 гадоў таму, ужо А.Лукашэнкам.

Ліквідуюцца ня толькі электронныя СМІ. Незалежныя газэты таксама зачыняюцца. Зь беларускамоўных газэтаў асталася толькі адна дзяржаўная штадзёнка, аднак перапоўненая ўрадавай прапагандай. „Зьвязда", якая поўнасьцю выходзіць на беларускай мове, не паяўляецца па чацьвяргах. Летась была яна прымушаная праглынуць „Чырвоную Зьмену" – адзіную моладзевую беларускамоўную газэту, на фінансаваньне якой не хапіла дзяржаве грошай. Цяпер „Чырвоная Зьмена" – гэта толькі штотыднёвы дадатак да „Зьвязды".

Сытуацыю найбольш трапна, – заўважае „Gazeta Wyborcza" – хоць зусім выпадкова, акрэсьліла новая дырэктарка Гуманітарнага Ліцэя ў Менску. Калі вучні спыталі яе, чаму размаўляе зь імі па-расейску, адказала, што беларускай мовы ня мусіць ведаць, таму што ў краіне ёсьць дзьве дзяржаўныя мовы. Пасьля бунту вучняў, бацькоў і настаўнікаў, якія трактавалі школу як энкляў роднай мовы, ліцэй быў зачынены.

Паводле дадзеных Таварыства Беларускай Мовы, русыфікацыя грамадзкага жыцьця ў краіне ўзмацняецца. Беларускамоўныя тэлеперадачы складаюць менш чым 8% цэлай праграмы. Яшчэ тры гады таму было іх больш за 10%. На радыё сытуацыя выглядае яшчэ горш. Пасьля ліквідаваньня 5 гадоў таму незалежнага Радыё 101,2 толькі дзяржаўная „Сталіца" перадавала праграму па-беларуску.

Такая самая сытуацыя назіраецца ў школьнай сыстэме. Цяпер ужо меней за чвэрць вучняў пачатковых школаў вывучае беларускую мову – сказаў „Gazecie Wyborczej" Алег Трусаў – старшыня Таварыства.

Беларускі пісьменьнік зь Беласточчыны Сакрат Яновіч патлумачыў штадзёнцы, з чаго гэта вынікае. Мы ў Польшчы не разумеем, што Беларусь сталася незалежнай дзяржавай нечакана даля самой сябе. Грамадзтва не было падрыхтаванае да гэтага. Беларусь не зьяўляецца незалежнай дзяржавай у нашым разуменьні. Кіруюць ёю саветы, якія паводзяць сябе так, быццам бы Беларусь належала яшчэ да Савецкага Саюзу. Сапраўдных беларусаў у Беларусі няшмат, нейкія 20%. 80% - гэта савецкае насельніцтва. Гэта саветы, а не расейцы, якіх нават ня любяць у Беларусі за тое, што разваліл Савецкі Саюз.

Таму калі нехта хоча дабіцца чагосьці ў Беларусі, не павінен экспанаваць сябе як беларуса, бо прайграе. Сьведчыць пра гэта лёс забытага апазыцыянера зь Беларсукага Народнага Фронту Зянона Пазьняка, які ня мог гэтага зразумець. Можа таму, што паходзіць з Заходняй Беларусі, менш саветызаваный.

Калі гаварыць пра Аляксандра Лукашэнку, то Сакрат Яновіч ацэньвае яго як чалавека , адзіным сэнсам жыцьця якога зьяўляецца ўлада. Так як, дапусьцім, Туркмэн-баша ў Туркмэніі ці Фідэль Кастра на Кубе. Калі Лукашэнка хоча захаваць уладу, дык ён ня можа быць беларускім патрыётам, таму што савецкі электарат не прагаласуе за яго. Ён мусіць выконваць ролю савецкага чалавека, з чым - як аказваецца - ня мае ніякіх праблемаў – сказаў „Gazecie Wyborczej" Сакрат Яновіч.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# *"На Беларусі Бог жыве"*

Не толькі на Беларусі. Бог – паўсюль. Уся прыродная (сусветная) створанасць пазначана Боскай сутнасцю. Ёю ахоплены дзейнасць далёкіх ад нас галактык і жыццё кволай травінкі на зямным узгорку, рух кузуркі на ёй. Усё асветлена прыроднай духоўнай энергіяй – мэтанакіравальнай сілай у бясконцых узаемасувязях усяго існага на свеце.

Аднак Боскія праявы на тэрыторыі, якую цяпер на планеце называюць Беларуссю, і ў прылеглых да яе рэгіёнах – адметныя. Тут акумулявана агромністая колькасць прыроднай (касмічнай) духоўнай энергіі. Лясы і балоты, вадаёмы, рэчкі і лугі дапамагаюць не толькі ўспрымаць і затрымліваць касмічную энергію, а і назапашваць яе і працяглы час сілкаваць ёю насельнікаў краю.

Больш за трэць тэрыторыі Беларусі занята лясамі і гаямі. З асноўных лесаўтаваральных парод пераважаюць хвоя і елка. Гэтыя вечназялёныя дрэвы рэтрадукуюць духоўную энергію нават зімой, калі замірае жыццё ў прыродзе, замярзаюць рэкі, вадаёмы, балоты.

На Беларусі каля 21 тысячы рэк і ручаін, больш за 10 тысяч азёр. Рэкі і рэчкі цякуць у розных напрамках – з поўначы на поўдзень, з усходу на захад і наадварот – і тым самым ствараюць своеасаблівую кругазваротную сістэму духоўнага субстрату на нашай зямлі. Супрацьлеглы бег водных артэрый (Прыпяць – Заходняя Дзвіна, Бярэзіна – Нёман і інш.), акаймленне межаў краіны рэчышчамі буйных рэк з шматлікімі прытокамі актывізуюць віхурны рух духоўнай энергіі ў беларускай прасторы, дапамагаюць прыродным духоўным плыням утрымацца ў ёй і не пакідаць гэты адметны геаграфічны рэгіён.

Высокі патэнцыял духоўнага субстрату ў беларускай прасторы паўплываў на фармаванне светапогляду, характару і паводзінаў насельнікаў гэтага краю. Выкрышталізаваліся такія іх лёсавызначальныя якасці, як памяркоўнасць, разважлівасць, здольнасць тонка адчуваць душэўны свет іншых асоб і ў роўнай ступені (а часам і ў большай) суперажываць іх боль і радасць. Імкненне насельнікаў краю да духоўна-інтэлектуальнай дзейнасці (нават звычайную фізічную работу напаўняць духоўнасцю), да гарманічнай суладнасці з наваколлем засланяюць сацыяльную цягу да кіравання (гэта як-ніяк дзейнасць на фізічным узроўні)...

...Сапраўды, на Беларусі Бог жыве – і людзі гэтага краю імкнуцца спазнаць і памножыць яго сутнаснае выяўленне на духоўным узроўні.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Пра адну сустрэчу ў Чыкага і пра тое, што болей такіх сустрэч, на жаль, ня будзе

**Г**этая нядаўняя сустрэча была нечаканай і зусім незвычайнай. Дзесяць маладых журналістаў з Беларусі прыехалі ў Чыкага на прафесійную стажыроўку па праграме "Грамадскія сувязі", якую ажыцьцяўляе мінскае прадстаўніцтва IREX – Савета па міжнародных дасьледваньнях і абменах, некамерцыйнай арганізацыі, галоўны офіс якой месьціцца ў Вашынгтоне. Дабрачынная дзейнасьць гэтага Савету фінансуецца Дзярждэпартаментам ЗША.



На здымку: група маладых беларускіх журналістаў на кватэры ў Веры і Вітаўта Рамукоў. Чыкага, ліпень, 2003 г.

Тры тыдні ў нас у Чыкага былі гасьцямі Юрка Базан, галоўны рэдактар менскай радыёстанцыі "Аўтарадыё", Натальля Беразоўская, прадстаўніца міждзяржаўнай радыёкампаніі "Мір" у Беларусі, Вера Дашкевіч, беларускі карэспандэнт маскоўскай тэлекампаніі ТВЦ, Сяргей Дарафееў, журналіст менскай радыёстанцыі "Альфа", Ігар Карней, менскі карэспандэнт радыё "Свабода", Вікторыя Касянюк, якая працуе на радыё "Unistar" Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту, Іван Мірскі, загадчык аддзела інфармацыі радыёстанцыі "Альфа", Андрэй Мохар, які ўзначальвае аддзел навін на радыё "Рокс" у Менску, Алена Панкратава, супрацоўнік менскай рэдакцыі радыё "Свабода" і Вольга Тарапіла, журналіст прыватнай тэлекампаніі "Фіт", якая здымае дакументальныя фільмы пра людзей, якіх лёс разлучыў падчас вайны. Усе яны жылі ўвесь гэты час у валанцёрскіх амэрыканскіх сем'ях, канкрэтна пазнаючы побыт і звычаі нашай краіны. Госьці падрабязна знаёміліся з працай чыкагскіх тэлевізійных і радыёстанцый, асабліва іх цікавіла арганізацыя і практыка радыёвяшчаньня на хвалях FM. Адбылося мноства цікавейшых сустрэч і размоў з амэрыканскімі калегамі, завязаліся новыя прафесійныя знаёмствы. Сабраўшыся разам у адзін з апошніх дзён на развітальны абед у доме ў Веры і Вітаўта Рамукоў, маладыя журналісты наўзахваткі сталі расказваць пра свае яскравыя, незабыўныя ўражаньні. Давайце паслухаем некаторых з іх.

**Іван Мірскі**. Вядома, мы вельмі хацелі прыехаць сюды ў Амэрыку. Давялося прайсьці ў Менску два туры адмысловага адбору. З сямідзесяці чалавек адабралі вось гэту дзесятку нашых радыёжурналістаў і тэлежурналістаў. Двое з нашай групы – Ігар і Алена – працуюць на радыё "Свабода", астатнія – у мясцовых менскіх тэле- і радыёкампаніях. За гэтыя тры тыдні ў кожнага было мноства найцікавейшых сустрэчаў. Нам расказвалі пра жыццё і працу журналістаў тут, у Амэрыцы, у дэмакратычным грамадстве. Мы падрабязна вывучалі арганізацыю працы на тэлестанцыях і радыёстанцыях, атрымалі мноства каштоўных арганізацыйных і прафесійных навыкаў. Атрымалі поўную інфармацыю, неабходную для нас, у тым ліку і пра тое, якое тут заканадаўства, як жывуць і працуюць людзі. Ды наогул – што казаць – убачылі мы многае.

**Юрка Базан**. Мяне цікавіла арганізацыя вяшчаньня мясцовых радыёканалаў, праграмы якіх могуць прымаць і слухаць у сябе ў машынах аўтааматары. Бо тут жа такая колькасьць аўтамашынаў, як нідзе ані ў якой краіне. Але ж і ў нас у Менску з'яўленьне такой станцыі як наша звязана з рэзкім павелічэньнем колькасьці асабістых машынаў – пра гэта, напэўна, ня ўсе тут ведаюць. Я атрымаў у гэтыя дні вельмі многа карыснай і важнай інфармацыі. Вельмі добра і тое, што за гэтыя дні мы пазнаёміліся з жыцьцём звычайных амэрыканцаў, бо мы ж пра гэта анічога ня ведалі, яны для нас былі як людзі з іншай плянэты.

**Наталля Беразоўская**. Вядома, мы ўсе ехалі сюды ў Амэрыку з пэўнымі стэрэатыпамі, калі можна так сказаць. Адно ўяўленьне пра Амэрыку мы атрымліваем, напрыклад, з праграмаў Беларускага тэлебачаньня, іншае – з аповедаў тых, хто тут пабываў. Адны кажуць, што Амэрыка – гэта свабода і казка, другія клянуць яе і заяўляюць, што яны сюды болей ніколі не паедуць. Таму было цікава ўсё гэта самім адчуць, перажыць, дазнацца пра ўсё. Першае наша ўражаньне: хмарачосы, хмарачосы і не хапае неба. Але потым усё праясьнілася, з'явілася над намі агромністае неба, і мы хутка ўпісаліся ў дзелавы амэрыканскі стыль жыцьця. Вядома, мне як жанчыне цяжка адразу апрануць шорты і "т-шорт", харчавацца, на першы погляд, толькі гамбургерамі ды сэндвічамі. Але гэта ўсё ня так, выбар, як аказалася, усё роўна вялізнейшы. Я знайшла для сябе тут даволі многа адказаў на пытаньні, якія задавала сабе. Асабліва, напрыклад, на тыя, якія звязаны з журналісцкімі дасьледваньнямі. Я даведалася, як яны праводзяцца, як захоўваюцца крыніцы інфармацыі, дзе шукаць навінаў. Многія казалі, што навіны варта шукаць альбо ў народзе, альбо ў тых асобаў у кіраўніцтве краіны, якія апантаны якой-небудзь ідэяй, працуюць на гэту ідэю. Мы стажыраваліся і ў тэле- і ў радыёкампаніях і ў рэдакцыях некаторых газэтаў, усё ішло па добра складзенаму пляну.

Я мяркую, што ўсе ў нашай групе зрабілі такі вывад: амэрыканскім журналістам жывецца тут зусім няблага. У іх ёсьць усё: неабходнае тэхнічнае забесьпячэньне, крыніцы інфармацыі, ёсьць пра што пісаць, таму што ўвесь час нешта цікавае адбываецца. Цікава, як бы амэрыканскія журналісты працавалі ў нашых умовах, калі шэсьць чалавек на адзін кампутар, калі ў адным рэдакцыйным пакоі сядзяць дваццаць асобаў. Адзін са стэрэатыпаў, якія ў нас былі, гэта тое, што для амэрыканцаў грошы – перш за ўсё, яны для іх значаць усё. Але ў тых сем'ях, дзе нас прымалі, мы адчулі, што ўсё для нас робіцца абсалютна бескарысна і шчыра. Наша гаспадыня Джудзі, у якой мы жылі разам з маёй калежанкай, на дазваляла нам ані рыхтаваць ежу, ані прыбіраць, яна ўсё рабіла сама. Гэта выклікала толькі павагу. І многія нашыя ранейшыя ўяўленьні пра Амэрыку зараз поўнасьцю разбураныя. Калі мы вернемся, мы раскажам усім пра тую Амэрыку, якую мы ўбачылі і адчулі.

**Вера Дашкевіч**. Я ехала сюды баючыся, з асьцярогай. Але многае, што склалася раней у сьвядомасьці, тут хутка развеялася. Уражаньні сталі болей аб'ёмістыя. Амэрыканскае жыцьцё зрабілася болей зразумелым нам, яно ўжо не палохае, а зусім наадварот, прыцягвае. Людзі жывуць цікава, многія іх праблемы падобныя на тыя, што і ў людзей у нашай краіне. Значна меней, вядома, бытавых праблемаў. Але ўсе астатнія праблемы існуюць у розных асьпектах і вымярэньнях – і адносіны паміж людзьмі, і нават свабода слова. Мне здаецца, што калі хто-небудзь з нас прыедзе сюды, дык працаваць нам тут будзе вельмі проста.

Падкупае цудоўная ветлівасьць амэрыканцаў, іх адкрытасьць, імгненныя прабачэньні, калі што здарылася ня так. У Менску, напрыклад, людзі зачаста даволі злосныя, можа, праз ня вельмі лёгкае жыцьцё. Мы бачылі цудоўную дабрачынную сталоўку для беднаты. Мы працавалі там валанцёрамі. Усё нас зьдзівіла: і смачная ежа, і адносіны да наведвальнікаў. Людзі туды прыходзілі чыстыя, у сьветлых кашулях.

А наогул тут усё вельмі спадабалася. Дзякуючы сем'ям, якія нас прымалі, часьцінкі нашых сэрцаў застануцца тут, у Чыкага, і мы дзякуем усім, асабліва "Heartland International" – арганізацыі, якая тут у Чыкага ўсё арганізавала. І, вядома, тыя сем'і, дзе мы жылі.

Праграма "Грамадскія сувязі" ("Community Connections") ажыцьцяўляецца Саветам IREX у Рэспубліцы Беларусь з 1998 году. За гэты час каля 400 чалавек з Беларусі прынялі ўдзел у прафесійнай стажыроўцы ў ЗША. На падставе адкрытага конкурсу для паездкі ў Амэрыку адбіраліся спецыялісты, у асноўным маладыя, у галіне мэдыцыны, народнай адукацыі, сельскай гаспадаркі, супрацоўнікі фінансавых установаў, установаў культуры, экалогіі і іншых галінаў гаспадаркі, бізнесмэны. Карысьць ад такіх паездкаў найвялікшая. Маладыя беларусы ня толькі праходзяць у Амэрыцы высокакваліфікаваную прафесійную стажыроўку, набываюць новыя практычныя веды і ўсталёўваюць новыя карысныя кантакты. Вельмі важна і паглыбленьне ўдзельнікаў праграмы ў сферу існаваньня свабоднай рынкавай эканомікі, знаёмства з іншымі, чымсьці на радзіме, звычаямі і стылем жыцьця.

Нядаўна на прэс-канферэнцыі ў менскім гатэлі "Плянэта" мэнаджэр праграмы "Community Connections" Говард Чанг, расказваючы пра дзейнасьць IREX, прывёў шэраг канкрэтных прыкладаў посьпехаў і дасягненьняў беларускіх спецыялістаў пасьля стажыровак у ЗША. Малады ўрач-артапед з Гомельшчыны Яўген Гаркуша зусім ня ведаў ангельскай мовы, калі прыехаў у Амэрыку. Тым ня менш ягоныя кантакты з калегамі былі вельмі плённымі. Вярнуўшыся дадому, ён стаў пасьпяхова практыкаваць павязкі дзеля фіксацыі пасьля пераломаў, а не абавязковы гіпс, як гэта ўжывалася звычайна. Прававеда Вера Данілава пасьля леташняй стажыроўкі ў Амэрыцы адкрыла ў Менску юрыдычную кансалтынгавую фірму. З новымі ідэямі, якія можна ўжыць у педагогіцы і грамадскім жыцьці, вярнуўся дадому педагог з Брэста Валянцін Лазарэнка. Говард Чанг ня толькі прывёў мноства падобных прыкладаў, але і гаварыў пра значэньне такіх кантактаў і для амэрыканцаў, якія шмат даведваюцца пра далёкую краіну – Беларусь, пра яе традыцыі, побыт, гісторыю, культуру, пра яе духоўнасьць.

Ужо тут, у Амэрыцы, у самы апошні дзень знаходжаньня, маладыя беларускія журналісты даведаліся, што праграма "Грамадскія сувязі" на іх радзіме, на жаль, зачыняецца. Міністэрства замежных справаў Беларусі адмовіла IREX у далейшай акрэдытацыі. Зусім неабгрунтавана было заяўлена, што гэты Савет нібыта "парушае беларускае заканадаўства і мае нейкія схаваныя мэты". У заяве ў адказ Пасольства ЗША ў Беларусі гаворыцца пра суцэльную хлусьлівасьць такіх абвінавачваньняў. IREX і іншыя інстытуты, якія фінансуюцца Урадам ЗША, дзейнічаюць на падставе двухбаковага пагадненьня паміж ЗША і Рэспублікай Беларусь, падпісанага ў 1996 годзе. Акрамя гэтага, падкрэсьліваецца ў Заяве пасольства, кожныя шэсьць месяцаў Савет IREX рэгулярна прадстаўляе Міністэрству замежных справаў Беларусі поўную справаздачу пра сваю дзейнасьць і праходзіць праверку з боку мясцовых падаткавых органаў. Пасольства ЗША выказала глыбокае шкадаваньне ў сувязі з тым, што ў рэспубліцы разгортваецца антыамэрыканская і антыдэмакратычная кампанія, зачыняюцца незалежныя сродкі масавай інфармацыі, высылаюцца непажаданыя карэспандэнты з замежных краінаў.

На жаль, у Беларусь вяртаюцца старыя савецкія часы, толькі, магчыма, у больш абвостраным, антыдэмакратычным выглядзе. Асноўную пагрозу сваёй дыктатарскай уладзе цяперашні прэзідэнт бачыць з Захаду, у "падкопах амэрыканскіх імпэрыялістаў". Знаёмая карціна, знаёмая тэрміналогія. Трэба ж насуперак Канстытуцыі застацца начале дзяржавы яшчэ на трэці тэрмін. А каб народ маўчаў, трэба ўсяляк ізаляваць яго ад "шкоднага ўплыву Захаду і Амэрыкі". Таму зачыняецца IREX, ствараюцца невыносныя ўмовы для інвестараў ("Ford", "Motorola" ды іншыя кампаніі вымушаны былі спыніць у Менску сваю вытворчасьць і прадстаўніцтвы), перапыняюцца ў самым пачатку многія беларуска-амэрыканскія кантакты, якія б маглі стаць для рэспублікі вельмі карыснымі і плённымі.

Такія вось сёньня справы ў Менску. І вельмі шкада, калі паездка да нас на стажыроўку маладых журналістаў, пра якую мы расказалі ў гэтых нататках, будзе наогул апошняй у высакароднай і бескарысьлівай праграме сувязяў паміж народамі Беларусі і ЗША, у той праграме кантактаў, што праводзіць IREX.

Ванкарэм Нікіфаровіч. (Chicago)




© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# "Я спакойна мог глядзець любому ў вочы"

сяргей законнікаў

На пытанні журналістаў аб сёньняшняй сітуацыі ў грамадстве адказвае пісьменнік Сяргей Законнікаў.

— Сяргей Іванавіч, у савецкія часы вы займалі адказную пасаду ў ЦК КПБ — загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры. Ці ёсць падабенства таго часу і сёньняшняга?

— Такой жорсткай рэгламентацыі і падпарадкавання ўсяго нашага грамадскага і гаспадарчага жыцця "вертыкалі", як у нас зараз, не было нават тады. Гэта я кажу як чалавек, які назіраў тую сістэму знутры. Людзі і ў апараце ЦК, і на месцах у абласцях, раёнах і гарадах, адчувалі сябе адказнымі за свой участак працы. А не так, як сёння. Усё вырашае адзін чалавек. У такой сітуацыі ніякага парадку ў дзяржаве быць не можа. Таму што людзі, якія толькі глядзяць яму ў рот, не могуць забяспечыць нармальную работу любой галіны. З самага пачатку ішоў на гэтую пасаду цяжка. Адмаўляўся, бо і сёння лічу: калі Бог даў нейкія здольнасці, то трэба іх выкарыстоўваць па прызначэнні. Любая чыноўніцкая работа, любая служба паглынае не толькі многа часу, але і тваю душу. Таму што душы нельга быць раскіданай. Але мяне ўгаварылі сябры. Сказалі: "Ідзі, бо калі прыдзе другі, будзе горш".

Браў мяне на працу Пётр Міронавіч Машэраў. Тады такая завядзёнка ў ЦК была, што новых інструктараў, загадчыкаў сектараў прымаў на працу сам першы сакратар. І адразу ж ён у мяне спытаў: "Ці з жаданнем вы ідзеце сюды працаваць?". Я шчыра прызнаўся: "Не". Ён пацікавіўся: «Чаму?» «Таму, — сказаў я, — што хачу займацца творчай работай. Мяне ўгаварылі.» Тады Машэраў запытаўся: "А ведаеце вы, чым павінны займацца?". Я кажу: "Ну, відаць, трэба спрыяць літаратурна-мастацкаму працэсу, дапамагаць пісьменнікам выдаваць кніжкі, вырашаць іх праблемы". І Машэраў сказаў: "Малайчына! Я згодны з такой пазіцыяй. Будзем працаваць!"

— Для вас гэта страчаны час?

— Я прасіўся сысці з ЦК тры разы. Гэтыя заявы сакратар па ідэалогіі Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін рваў і выкідаў у сметніцу. І ўсё ж я вырваўся, калі адбылася перабудова, у канцы 1986 года. Мікалай Нікітавіч Слюнькоў на адной сустрэчы, а потым і на другой угаворваў мяне: "Ну што гэта вы на такую пасадзу ідзеце? Тут вам будзе месца міністра культуры або старшыні камітэта па друку. Вось туды пойдзеце, на годную пасаду". А я: "Мікалай Нікітавіч, адпусціце Хрыста радзі. Гэта самае лепшае, што вы можаце зрабіць для мяне за маю амаль дзевяцігадовую працу ў ЦК". Таму, калі мяне накіравалі на работу галоўным рэдактарам часопіса "Полымя", я быў вельмі шчаслівы.

Але я не шкадую аб тым часе. Я меў магчымасць знаёміцца з літаратурай, якую я ніколі не прачытаў бы, калі б быў, як раней, карэспандэнтам газеты "Звязда". Бо многа літаратуры, што хацелася пачытаць, было засакрэчана ў сховах КДБ і ў іншых архівах. Таму шмат твораў і выданняў я прачытаў менавіта адтуль.

У ЦК я з вялікім задавальненнем працаваў над дзвюма праграмамі. Першая — выпуск мастацкай літаратуры і яе прапаганда праз кнігагандлёвую сетку і бібліятэкі. Другая — адукацыйная. Разам з аддзелам навукі наш аддзел культуры распрацоўваў праграму карэннага змянення ўсёй сістэмы адукацыі ў рэспубліцы — вышэйшай школы, сярэдняй, сярэдне-тэхнічнай і агульнаадукацыйнай. Найперш, у плане нацыяналізацыі, а па-другое — надання сістэме адукацыі больш высокага інтэлектуальнага ўзроўню. На жаль, гэта праграма засталася пад сукном. Яе не прынялі, таму што ў Маскве палічылі нацыяналістычнай. Хаця там ніякіх рэвалюцыйных закладзена не было, а прадугледжвалася паэтапна перавесці адукацыю на нацыянальныя рэйкі.

— Ці даводзілася ўступаць у канфлікты?

— Канешне, ворагі ў мяне былі. Таму што заўсёды там, дзе была графаманія, дзе чалавек, не маючы здольнасцяў, таленту, пнуўся сябе сцвердзіць метадам лакейства, я гэтага не прымаў і не прымаю. Наогул, чынашанаванне — наша страшнейшая хвароба. Любы мужычонка, п'яніца горкі, які валяецца пад плотам, калі толькі яго паставяць брыгадзірам, то людзі забываюцца на ягоныя якасці. Бо ён — начальнік. І людзі яго слухаюцца, і як робаты выконваюць яго дурныя загады. Мы гэта назіраем сёння знізу даверху.

Давялося займацца многа чым, і шчаслівы, што з "Высокага дому", як называлі ў той час ЦК, мне было лёгка вяртацца ў жывое пісьменніцкае асяроддзе, бо я спакойна мог глядзець любому ў вочы.

— Ваш дзядзька, вядомы паэт Сяргей Ракіта, быў рэпрэсаваны ў 30-я гады. Як склаўся яго лёс?

— Мой дзядзька, Сяргей Васільевіч Законнікаў (Сяргей Ракіта — яго літаратурны псеўданім), у 30-я гады быў арыштаваны ў 26 гадоў, асуджаны сталінскім судом і згінуў у лагерах. Нават не ведаем, дзе ягоная магіла. Адзінае вядома, што апошняе яго месца заключэння — станцыя Сухабязводная Горкаўскай вобласці (сёння Ніжагародская вобласць). На тым месцы, дзе быў сталінскі лагер, вырас сасновы лес, дзе-ндзе засталіся рэшткі баракаў, зусім спарахнелыя, і дрот калючы. Можа, ён там і загінуў.

— Шмат хто за савецкім часам пісаў творы ў стол. А беларуская пісьменнікі стваралі пратэстную літаратуру ці былі талерантныя да ўладаў?

— У параўнанні з пісьменнікамі Расіі, Украіны, канешне ж, на Беларусі было менш тых, хто ў пасляваенныя гады пісалі ў стол. У асноўным гэта былі працы, звязаныя з успамінамі. Успамінаў і дзённікаў было многа. Што тычыцца мастацкіх твораў — раманаў, аповесцяў, паэмаў — такой практыкі не было. Сярод недрукаваных твораў былі некаторыя вершы. Але масавага пісання ў стол, як на Украіне і ў Расіі, не было. Калі браць 20–30-я гады, то, вядома, Беларусь мае самы унікальны прыклад, як выпрацоўвалася тэхналогія вынішчэння інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі. Трэба аддаць належнае нашым пісьменнікам, таму што калі б не беларуская літаратура, то на сённяшні дзень сітуацыя з нацыяфармаваннем была б яшчэ горшая. У першую чаргу трэба дзякаваць пісьменнікам, а потым навукоўцам, святарам, ваенным і іншым людзям, якія стаялі за ідэю незалежнасці і дзяржаўнасці Беларусі.

Гаварыць пра тое, як некаторыя, што наша літаратура не ўяўляе вялікага значэння, нельга. Яна не лепшая, але і не горшая за любую еўрапейскую літаратуру. Іншая справа, што ў кожнай літаратуры ёсць свае асаблівасці. Наша літаратура занадта традыцыйная, засяроджаная на ваеннай тэме, калектывізацыі, вёсцы. Гэта не значыць, што не было выдатных твораў. Калі мы возьмем "Знак бяды" Быкава — там і пра вайну, і пра калектывізацыю, але твор выходзіць і на агульначалавечыя маштабы, узбуджае высокафіласофскія праблемы — захавання чалавечага ў чалавеку.

Не трэба спісваць і Івана Мележа з рахунку. Ягоныя "Людзі на балоце" — выдатны твор, які на сваім этапе зрабіў вельмі многае, каб абудзіць новае пакаленне пісьменнікаў. Паглядзіце, колькі за Мележам прыйшло — і Віктар Казько, і Анатоль Кудравец, і Віктар Карамазаў, і Алесь Жук, і Генрых Далідовіч, і Вольга Іпатава. У нас паявілася вельмі многа празаікаў, якія былі ўжо не проста вясковыя або ваенныя. Яны выйшлі на больш сучасны, агульначалавечы ўзровень.

— А зараз беларускія пісьменнікі, якія не займаюцца лакействам, таксама, як і ў савецкія часы, пішуць у стол? Ці маюць магчымасць выдавацца?

— Ідзе павальнае пісанне ў стол. Няма дзе друкавацца. Зараз дзесяткі кніг ляжаць у сталах пісьменнікаў. І гэта пытанне не толькі фінансавае, але і ідэалагічнае. Ганарары нават у параўнанні з 90-м годам зменшыліся ў 9–17 разоў. Пісьменнікі сёння з'яўляюцца адной з самых неабароненых катэгорый насельніцтва ў духоўнай сферы. Яны аказаліся ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы.

— Над чым вы працуеце зараз?

— У стол я пішу ў асноўным вершы. Напісана кніжка эсэ, кніжка літаратурных партрэтаў сяброў, памфлетаў... кніга "Прадонне" з прадмовай Васіля Быкава. Некаторыя з іх друкаваліся, іншыя не так шырока вядомыя. Гэты зборнік абяцалі выпусціць яшчэ ў 1996 годзе, але ён так і не выйшаў. А не ў стол пішу публіцыстычныя роздумы пра тое, што адбываецца ў свеце.

— Як складваюцца справы з выданнем часопіса "Дзеяслоў"?

— Ідзе сабатаж. Не бяруць у падпісны каталог, у дзяржаўныя кіёскі. Хаця пры цвярозым розуме ў гэтай сітуацыі дзяржава, наадварот, павінна была б быць зацікаўлена ў выхадзе новых часопісаў. Бо выдаўцы не патрабуюць ні адной дзяржаўнай капейкі, а, наадварот, будуць плаціць дзяржаве падаткі. У той жа Польшчы літаратурна-культуралагічных часопісаў такога плану каля 300. У Літве — 100. І там дзяржава падтрымлівае іх. Мы пра такое і не марым нават. Але ўлады цвёрда паставілі бар'ер, каб не было новых літаратурных выданняў. Занятая пазіцыя, каб знішчыць усё, каб была пустыня, дзе ніякага жывога слова, якое будзіць думку. Чаго баіцца ўлада? Літаратурныя выданні — свабодалюбівыя. Яны не могуць быць у клетцы. Так ці інакш яны выходзяць на праблемы, якія не падабаюцца ўладзе.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Амэрыканскія беларусы аддалі Касьцюшку палякам

**Жнівеньскімі днямі чвэрць стагоддзя таму ў Чыкага з'явіўся помнік нацыянальнаму герою Беларусі, Польшчы, Францыі і ЗША Тадэвушу Касцюшку. Але сярод мноства надпісаў на пастаменце пра талент брыгаднага генерала арміі Поўначы няма нават узгадкі пра беларускае паходжанне Касцюшкі. Спробы прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Чыкага аднавіць гістарычную раўнавагу аказаліся марнымі. У часе камандзіроўкі ў ЗША карэспандэнт Радыё Свабода сустрэўся з тымі, хто спрабуе данесці амерыканцам праўду пра выбітнага нараджэнца Беларусі.**

Конная скульптура Тадэвуша Касцюшкі ў цэнтры Чыкага з'явілася ў жніўні 1978 года з ініцыятывы польскай дыяспары – дарэчы, колькасна самай вялікай пасля мексіканскай. Зусім натуральна, што на велічным манументе сярод пераліку вайсковых заслугаў генерала па-польску напісана: «Вялікаму грамадзяніну Польшчы і ЗША». Ні слова пра тое, што Касцюшка – беларус, што нарадзіўся ён у фальварку Мерачоўшчына на Берасьцейшчыне, што неадноўчы вяртаўся на радзіму і жыў там. Амерыканскія палякі не пазначылі на пастаменце, што паўстанне 1794 года, якое ён ачоліў, было нацыянальна-вызвольным аднолькава як для палякаў, гэтак і беларусаў. І што самы дзейны чын бралі ў ім беларусы.

Зрэшты, Касцюшка – не адзіны, каго стагоддзямі не могуць падзяліць паводле нацыянальнай прыналежнасці беларусы і палякі. Тое ж тычыцца і Міцкевіча, і Ажэшкі, і Агінскага. Але ў той час, як палякі актыўна прапагандуюць у свеце «сваіх», з іхнага гледзішча, нацыянальных герояў, беларусы ў шэрагу выпадкаў ледзьве не добраахвотна адмаўляюцца ад уласных знакамітых продкаў.

Такога меркавання трымаецца сакратарка Беларускага каардынацыйнага камітэту ў Чыкага Вера Жызьнеўская. Пра свае пачуцці падчас адкрыцця помніка «польска-амерыканскаму грамадзяніну» Касцюшку яна распавядае так: «Балела сэрца, але што мы маглі зрабіць? Тут увесь час афішуецца, што Касцюшка – паляк, маўляў, гэта першы паляк, які даслужыўся да генеральскага чыну ў Амерыцы. Бяда ў тым, што беларусы не дамагаюцца свайго, сваёй праўды. Нашыя людзі працавалі шмат для каго. І проста аддаюць свае таленты чужым нацыям. І гэта найгоршая бяда – самі не цэнім свайго. А сваё цаніць мусім. Дарэчы, помнік адразу стаяў у Гамбульпарку, а потым яго перанеслі да самага Мічыгану, бліжэй да гэтак званай польскай секцыі. Цяпер, праўда, у гэтым месцы больш мексіканцаў жыве. Так што, усё памянялася».

– Але не вельмі мяняецца стаўленне беларусаў да сваіх нацыянальных герояў як у самой Беларусі, гэтак і на чужыне, у эміграцыі, – лічыць былы старшыня беларускага каардынацыйнага камітэту Вітаўт Рамук.

Ён кажа, што найбольшая актыўнасць беларусаў прыпадае на 1960-70-я гады, калі былі людзі, фізічна здольныя да працы. Аднак паўстае натуральнае пытанне: чаму, калі палякі жывуць разам, трымаюцца адзін другога, украінцы маюць свае калоніі, то беларусы адпачатку адасобленыя. І маладыя, якія цяпер прыязджаюць, таксама не папаўняюць шэрагі беларусаў?

Спадар Рамук распавядае, што ўкраінцы некалькі гадоў таму заснавалі village – уласную вёску. Палякаў у Чыкага жыве амаль столькі, колькі ў Варшаве. А беларусы заўсёды былі расцярушаныя па горадзе. Да таго ж, міжваенная эміграцыя была пераважна заробкавая, працоўная. Кантакты з імі былі вельмі цяжкія, яны больш былі радыкалізаваныя: у часе вайны тут досыць моцна працавала савецкая амбасада, і з імі было мала кантактаў.

Ля помніка Тадэвушу Касцюшку ў Чыкага заўсёды шмат людзей. Усе ахвотна фатаграфуюцца: скульптура вершніка сапраўды вельмі эфектная, а заслугі генерала перад Амерыкай уганараваныя яшчэ 220 гадоў таму Кангрэсам ЗША. Апроч усяго, гэта своеасаблівае месца паломніцтва палякаў: польская мова тут – звычайная. А вось беларусы, якія ў Чыкага жывуць даволі адасоблена і нават не могуць сказаць, колькі іх там ёсць, такога нацыянальна афарбаванага месца ў шматмільённым горадзе не маюць.

Ігар КАРНЕЙ

*****************************************************

# Справа зьніклых: новы паварот

**22 лістапада 2000 году старшыня КДБ Беларусі Ўладзімер Мацкевіч пастанавіў затрымаць Зьмітра Паўлічэнку на 30 сутак. Апроч подпісу старшыні Камітэту пад дакумэнтам стаіць санкцыя намесьніка генэральнага пракурора Сьнігіра. Сэнсацыйны дакумэнт апублікаваў «рэспубліканец» Валеры Фралоў. Свае крыніцы інфармацыі ён не раскрывае.**

Пра лёс Захаранкі, Ганчара, Красоўскага, Завадзкага гавораць і пішуць, здымаюць фільмы. Толькі высьвятліць гэты лёс сьледзтву ніяк не ўдаецца. І кожны новы віток цікавасьці да іх справы прыпадае на абвастрэньне адносінаў беларускага кіраўніцтва з Расеяй.

Упершыню пра «расейскі сьлед» у справе зьнікненьняў напісаў нейкі Віктар Клінко. У 2001 г. яго нарыс выйшаў асобнай брашуркай. Паводле Клінко, атака на Лукашэнку плянавалася з дапамогай справы журналіста Зьмітра Завадзкага. Аднак «яшчэ ня позна» Лукашэнку нанесьці прэвэнтыўны ўдар і вычысьціць беларускія органы ўлады і сілавыя структуры ад расейскай агентуры, пісаў таямнічы Клінко.

Справа ішла да прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі. Зьніклыя, як гэта ні цынічна гучыць, сталіся небясьпечнай зброяй у руках розных палітычных сілаў. Апазыцыя спадзявалася, што ўлада б... дыскрэдытаваная інфармацыяй пра яе саўдзе... злачынствах. Зноў жа чакалася, што не застанеш... баку і Расея, якая «была ў курсе ўсіх падзеяў»... выкіду ў прэсу самага сур'ёзнага кампрамату... беларускі рэжым не адбылося. Ці то Масква ня...

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



чаго сказаць, ці то вырашыла пакуль устрымаецца.

**Адказ Алкаеву**

Нагадаем, што ўпершыню падборка дакумэнтаў у справе зьніклых палітыкаў была абнародаваная ўлетку 2001 г. Спачатку ў чэрвені з заявай выступілі супрацоўнікі пракуратуры Зьміцер Петрушкевіч і Алег Случак, якія зьехалі ў ЗША.

А ў ліпені 2001-га кандыдат у прэзыдэнты Уладзімер Ганчарык агучыў адразу некалькі сэнсацыйных дакумэнтаў. Гэта былі цяпер ужо ўсім добра вядомыя рапарты генэрала Мікалая Лапаціка і начальніка сьледчага ізалятару Алега Алкаева.

Зьяўленьня новага дакумэнту давялося чакаць два гады. У лютым 2003-га А.Алкаеў на старонках «Для служебного пользования» пісаў: «І яшчэ пакуль ніхто не адказаў на пытаньне: што было напісана ў пастанове аб арышце Паўлічэнкі? Так, ён быў арыштаваны прэвэнтыўна, але ўсё роўна трэ было б штосьці напісаць у пастанове». Пасьля публікацыі ксэракопіі «Пастановы аб прымяненьні прэвэнтыўнага затрыманьня» ў газэце «Народная воля» ад 29 ліпеня 2003 г. адказ на пытаньне Алкаева быў дадзены:

«У матэрыялах апэратыўнай распрацоўкі маюцца пэўныя звесткі пра тое, што Паўлічэнка Дзьмітры Валер'евіч зьяўляецца арганізатарам і кіраўніком злачыннай групы, якая займалася выкраданьнямі і фізычным зьнішчэньнем грамадзянаў. У прыватнасьці, кіраваная Паўлічэнкам Дз.В. злачынная група мае дачыненьне да забойства 5 жніўня 2000 гр.Самойлава Г.В., лідэра незарэгістраванай Беларускай рэгіянальнай арганізацыі «РНЕ», а таксама да забойства іншых асобаў».

**Фралоў крыніцаў не раскрывае**

На падставе гэтага 22 лістапада 2000 г. старшыня КДБ Уладзімер Мацкевіч пастанавіў затрымаць Паўлічэнку на 30 сутак. Апроч подпісу старшыні Камітэту пад дакумэнтам стаіць санкцыя намесьніка генпракурора Сьнігіра.

Дакумэнт апублікаваў «рэспубліканец» Валеры Фралоў. Свае крыніцы інфармацыі ён не раскрывае. Вэрсію, што ксэракопія была ім прывезеная з Масквы, у размове з карэспандэнтам «НН» генэрал пакінуў без камэнтару. На пытаньне, чаму дакумэнт зьявіўся толькі цяпер, кажа: «Так склалася».

«Я адправіў ксэракопію ў Пракуратуру, КДБ і Вярхоўны Суд, — кажа Фралоў. — Каб улічвалі, што была такая пастанова. Што, напэўна, былі падставы для затрыманьня Паўлічэнкі, калі дакумэнт падпісалі такія сур'ёзныя людзі».

З аднаго боку, у дакумэнце няма нічога сэнсацыйнага — толькі пацьверджаньне ўжо вядомых ісьцінаў (хіба толькі заслугоўвае ўвагі згадка пра забойства Самойлава). Найважнейшае — сам факт абнародаваньня пастановы за подпісам Мацкевіча. Хтосьці падае беларускаму кіраўніцтву сыгнал. І робіць гэта яўна ня беглыя апазыцыянэры. Каб гэты дакумэнт і раней быў у іх руках, ён ужо быў бы надрукаваны ў апазыцыйнай прэсе.

Пастанову аб затрыманьні Паўлічэнкі, верагодна, выцягнулі з дасье, якое можа знаходзіцца ў Расеі. Характэрна, што перад гэтым у Маскве была надрукаваная кніга «Нашествие», прысьвечаная мэханізмам «чорнага» бізнэсу ў Беларусі, зьнікненьням вядомых людзей. «Нашествие» распаўсюджваецца ў Беларусі нелегальна, пераважна ў ксэракопіях, але ў Інтэрнэце зь яго зьместам мог пазнаёміцца кожны. Расейская «Независимая газета» ў чэрвені паведамляла пра пачатак псыхалягічнай вайны супраць Лукашэнкі і пра тое, што яго «ў Маскве замовілі». Ці не ў працяг гэтага генэрал Фралоў і атрымаў зь невядомых крыніцаў згаданы вышэй дакумэнт?

**Завадзкаму зламалі хрыбетнік**

Незадоўга да публікацыі копіі пастановы Мацкевіча было аднаўленае сьледзтва па факце зьнікненьня Ю.Захаранкі, В.Ганчара, А.Красоўскага і З.Завадзкага. Яно цягнулася ўжо некалькі гадоў. За гэты час было ўсё: «уцечкі інфармацыі», гучныя заявы, загадкавыя сьмерці апэратыўніка Камітэту па арганізаванай злачыннасьці пры МУС Уладзімера Француза, сьведкі, былога амапаўца 26-гадовага Антона Кабзара ды іншых. І толькі адна справа была даведзеная да суду — па ёй праходзіла «група Ігнатовіча».

14 сакавіка 2002 г. былыя спэцназаўцы Ігнатовіч і Малік атрымалі пажыцьцёвае зьняволеньне, а іх саўдзельнікі — вялікія тэрміны зьняволеньня. Аднак суд, прызнаўшы іх віну ў выкраданьні Завадзкага, так і ня даў адказу на пытаньне, што ж сталася з журналістам. Яговы калега Павал Шарамет лічыць, што Зьміцер быў захоплены беларускімі спэцслужбамі, якіх цікавіла, што ведае ОРТ і Шарамет пра іх апэрацыі ў Чачэніі: «Яго катавалі, зламалі хрыбетнік. Пасьля гэтага вырашылі дабіць, бо ўжо нельга было схаваць гэтае злачынства. Гэта вэрсія, якой трымаўся падчас нашых размоваў былы генпракурор Алег Бажэлка. І мне яна падаецца найбольш праўдападобнай».

**Міністар ня памятае**

Генэрал Юры Сівакоў, якога дапытвалі ў якасьці сьведкі, адмаўляў, што аддаваў каманду аб выдачы «расстрэльнага» пісталета. «Я гэтага ня памятаю», — сказаў ён сьледчаму. Зьмяніў свае паказаньні ад'ютант міністра Калеснік, які заявіў, што пісталет ляжаў у яго сэйфе.

Стала вядома, што пасьля выкраданьня Ганчара і Красоўскага невядомыя людзі, якія прадстаўляліся работнікамі міліцыі, зьдзяйснялі абход кватэр у раёне здарэньня. Яны цікавіліся, ці хто што-небудзь бачыў, — шукалі сьведкаў...

20 студзеня 2003 г. сьледчы пракуратуры Уладзімер Чумачэнка прыпыніў папярэдняе расьсьледаваньне. Тацяна Процька ўпэўненая, што гэтым ён паказаў: «нічога не магу зрабіць больш, чым зрабіў».

Аднак у пачатку лета 2003-га расьсьледаваньне справы зьніклых было нечакана аднаўленае. Пракурор сталіцы Мікалай Кулік замяніў сьледчага, і цяпер справай займаецца Сяргей Кухаронак. Прычынай гэтага кроку пракуратуры стаўся найперш шырокі розгалас, у тым ліку і за мяжой, беларускіх «гучных справаў». Алег Воўчак, кіраўнік грамадзкай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву», якая цяпер ліквідуецца Міністам, лічыць, што мэта аднаўленага сьледзтва — выправіць ранейшую памылку сьледчага Чумачэнкі. Студзеньская пастанова Чумачэнкі сьведчыла пра існаваньне ў нашай краіне «эскадрону сьмерці», хоць і не называла яговых удзельнікаў і гаспадароў. Цяпер жа гэты факт можа зьнікнуць з высноваў аднаўленага сьледзтва.

Жонка Віктара Ганчара Зінаіда лічыць, што аднаўленьне сьледзтва — гэта чарговая спроба ўлады заблытаць расьсьледаваньне. Ня верыць у станоўчы вынік сьледзтва і Ірына Красоўская. Прагноз генэрала Фралова таксама не аптымістычны: «Будуць цягнуць справу». Таму працягваецца работа над падрыхтоўкай пазову на ўлады Беларусі ў адзін з зўрапейскіх судоў.

**Алег Тачоны** /Наша Ніва/

***************************************

# Капітуляцыя

Аказваецца, беларусы не дараслі да таго, каб мець свае грошы...

Днямі ў Савеце Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі адбылося пасяджэнне "круглага стала" на тэму: "Праблемы пераходу беларускай эканомікі на адзіную валюту ў рамках саюзнай дзяржавы". На ім былі публічна агучаны некаторыя палажэнні праекта пагаднення па ўвядзенні ў нашай краіне расійскага рубля. Яны пераконваюць, што збываюцца самыя змрочныя прагнозы.

Вось што расказаў прысутным першы намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Павел Калаўр. Падаем толькі некаторыя фрагменты яго выступу з паведамлення агенцтва БелаПАН.

"Па сутнасці, мы маем справу з элементарным замяшчэннем нацыянальнай валюты іншай валютай, але са сваёй спецыфікай, -- гаварыў банкір. -- У сусветнай практыцы няма аналагаў такому манетарнаму саюзу, і гэта накладвае свой адбітак на перамоўны працэс, робіць яго больш цяжкім".

Словам, ніякая гэта не агульная валюта, а проста расійскі рубель "акупіруе" Беларусь. Вядома, што такога няма ў сусветнай практыцы і наўрад ці будзе.

Далей са слоў Калаўра вынікае, што курсавую палітыку ў рамках саюзнай дзяржавы будзе праводзіць выключна Цэнтральны банк Расійскай Федэрацыі. А па асобных пытаннях, якія непасрэдна звязаны са стабільнасцю расійскага рубля, прэваліраваць будуць рашэнні Цэнтрабанка. Праектам пагаднення прадугледжваецца стварэнне інструмента кантролю за эмісіяй на тэрыторыі Беларусі і наогул за станам эканомікі, -- зазначыў банкір.

У Нацбанка застаецца нагляд за банкаўскай сістэмай, рэгуляванне развіцця плацежнай сістэмы дзяржавы і некаторыя іншыя. Прадугледжваецца норма, у адпаведнасці з якой у склад савета дырэктараў Цэнтрабанка ўводзяцца два прадстаўнікі Беларусі. Гэта, паводле слоў Калаўра, "дазволіць даводзіць пазіцыю Рэспублікі Беларусь пры прыняцці рашэнняў, атрымліваць інфармацыю, карыстацца аналітыкай, якая будзе распрацоўвацца пры разглядзе тых ці іншых рашэнняў". Паводле яго слоў, "трэба да 2005 года стварыць аднатыпныя эканомікі, для таго каб зменшыць наступствы ўвядзення расійскага рубля".

Што ж атрымліваецца? "Прэваліраваць" будуць рашэнні расійскага Цэнтрабанка, які будзе кантраляваць на тэрыторыі Беларусі не толькі эмісію грошай, але і сачыць "наогул за станам эканомікі". А што атрымае Беларусь? Аказваецца, яе два прадстаўнікі ўвойдуць у склад савета дырэктароў і будуць толькі "даводзіць пазіцыю Беларусі і атрымліваць інфармацыю". Не ўплываць на рашэнні, а толькі атрымліваць інфармацыю аб іх. А наш Нацыянальны банк будзе займацца "наглядам за банкаўскай сістэмай".

Ці не здаецца вам, паважаныя чытачы, што гэта па сутнасці поўная капітуляцыя. Якімі б прыгожымі словамі і абяцаннямі ні афармлялі яе. Невыпадкова прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін настойвае перад Дзяржаўнай Думай у пісьме яе спікеру Селязнёву: разглядзець пытанне аб увядзенні расійскага рубля ў Беларусі ў "першачарговым парадку".

Зразумелі? У Расіі няма больш тэрміновых і неадкладных спраў, акрамя гэтага. Яны "куют железо, пока горячо".

Але давайце задумаемся, што на самай справе азначае ўвядзенне ў нас расійскага рубля. Уявім, у вёсцы па суседстве жывуць два браты. І вось старэйшы вырашыў забраць грошы малодшага сабе, а яму потым выдзяляць пэўныя сумы. У якіх выпадках такое робіцца? Толькі тады, калі малодшы -- альбо "умалишенный", альбо малы ці інвалід, і над ім патрабуецца апякунства блізкага родзіча. Тое пагадненне аб увядзенні расійскага рубля, ці расійскага "грашовага апякунства", па-сутнасці выстаўляе Беларусь перад усім светам у падобнай прыніжальнай ролі. Аказваецца, беларусы не дараслі да таго, каб мець свае грошы і ўмела карыстацца імі, і яны просяць у Расіі ўзяць над імі апякунства.

Яўген ТАЎГЕНЬ. (Н.В.)

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Расейцы прызначылі дату страты незалежнасьці Беларусі -- 1 студзеня 2005 году

*Цэнтрабанк РФ будзе выступаць у якасьці адзінага эмісійнага цэнтру пры ўвядзенні рубля як адзіна законнага плацёжнага сродку на тэрыторыі Расеі й Беларусі. Пра гэта паведаміў журналістам першы намесьнік міністра фінансаў РФ Аляксей Улюкаеў па выніках паседжання расейска-беларускай працоўнай групы па падрыхтоўцы міжурадавага пагаднення па ўвядзенні адзінай валюты. Такім чынам, Улюкаеў абверг ранейшае паведамленне аб магчымасьці стварэння двух эмісійных цэнтраў саюзнае дзяржавы. Згодна дакументу,* ***рубель як адзіны законны плацёжны сродак на тэрыторыі Беларусі павінен быць уведзены з 1 студзеня 2005 году.***

"Эмісію будзе ажыццяўляць Цэнтрабанк РФ", - падкрэсьліў першы намесьнік міністра.

Ён паведаміў, што на паседжанні працоўнае групы пагадненне аб увядзенні рубля на тэрыторыі "саюзнай дзяржавы" "нарэшце было ўзгодненае, і ў тэксце дакументу больш не засталося ніводнага пункту, які б выклікаў бы пярэчанні расейскага ці беларускага боку".

Зараз дакумэнт павінен быць падпісаны на ўзроўні ўраду РФ і Банку Расеі і ўраду Беларусі і Нацыянальнага банку рэспублікі.

Улюкаеў паведаміў, што курс абмену беларускіх рублёў на расейскія пакуль не ўстаноўлены. Гэта будзе зроблена ў прамежку паміж падпісаньнем міжурадавага пагаднення і пачаткам 2005 году.

Тэрміны абмену беларускіх рублёў на расейскія таксама пакуль не ўстаноўленыя, паведаміў Улюкаеў. Аднак паралельнага хаджэньня дзьвюх валютаў на тэрыторыі Беларусі ня будзе, падкрэсьліў ён. **"З 1 студзеня 2005 году ў Беларусі будуць хадзіць толькі расейскія рублі"**, - сказаў ён.

*****************************************************************************

# Пайшлі вы са сваёй рэабілітацыяй!..

**9 жніўня ў Зэльве збіраліся людзі, якія шануюць памяць аб вядомай паэтцы Ларысе Геніюш. Яна нарадзілася ў гэты дзень у 1910 годзе. Пасля вызвалення з ГУЛАГа жыла ў Зэльве, дзе і пахавана. Збірацца 9 жніўня – традыцыя шанавальнікаў творчасці паэткі і яе асобы, якая паказала сапраўдны нязломны беларускі характар.**

У зэльвенскай царкаўцы адбылася літургія, на якой успаміналі Ларысу Геніюш. Упершыню адбылося ўсё на беларускай мове: правіў службу айцец Аляксандр з Каложы, і спяваў таксама – каложскі царкоўны хор. Ля магілы паніхіду адправіў зэльвенскі святар айцец Аляксандр.

Як заўсёды, каля магілы выступалі тыя, хто адмыслова прыехаў у Зэльву ў гэты дзень. Дарэчы, найбольш было гродзенцаў, яны прыбылі вялікім «Ікарусам». Прамовы былі кароткія, але ёмістыя. А галоўным рэфрэнам гучала тэма рэабілітацыі паэткі. Як вядома, напярэдадні Беларускі Хельсінкскі Камітэт звярнуўся да А.Лукашэнкі з просьбай рэабілітаваць Ларысу Геніюш. Гэты крок для шмат каго быў нечаканасцю, абсурдам. Добра вядома, што ў значна больш спрыяльныя часы – пры Кебічу і Шушкевічу – у рэабілітацыі вялікай беларускай паэткі КДБ у хаўрусе з уладай адмовілі. Які сэнс было звяртацца паўторна, ды яшчэ да Лукашэнкі? Сама яна ніколі б падобны крок не ўхваліла, а значыцца, падобны зварот можна расцаніць, як не маральны.

Сапраўды, хіба магла б Ларыса Геніюш прасіць у посткамуністычнай улады рэабілітацыі? Улады, якая цалкам апраўдвае камуністычны тэрор, знішчэнне ўсяго беларускага, рэпрэсіі супраць беларускіх патрыётаў, якая паўторна знішчыла беларускія школы, нацыянальныя сімвалы? Добра сказаў над магілай паэткі Пятро Рашэтнік з Баранавічаў, які яе ведаў з часоў ГУЛАГа – яна ні ў чым не вінаватая перад беларусамі, таму няварта прасіць яе рэабілітацыі ў Лукашэнкі... Варта дадаць, што ў незалежнай дэмакратычнай Беларусі Ларыса Геніюш будзе адной з самых шанаваных асобаў нацыянальнай гісторыі.

*****************************************************************************

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



# Пераседзець Пуціна!

**Ён перастаў хадзіць па цэхах, калгасныя палі азірае зь верталёта, не рызыкуе прайсьціся па менскай вуліцы... Агульная схема — ад абагаўленьня, ад усеагульнае любові да расчараваньня і нянавісьці — спрацавала і ў Беларусі. Цяпер ён баіцца свайго электарату.**

Варта было б кінуць яму выклік: калі ты мужчына, калі сапраўды лідэр, дай згоду на правядзеньне мітынгу на тым самым Бангалоры, прыйдзі сам на гэты мітынг і выступі на ім, распавядзі пра посьпехі ў гаспадарцы, ахове здароўя, паляпшэньне дабрабыту... Ты дай згоду на правядзеньне такога мітынгу, а мы забясьпечым яго масавасьць. Можа стацца, што ты паўторыш рэкорд свайго старэйшага сябра Фідэля. Той любіў выступаць на пляцы перад народам.

У яго неспакойнае сумленьне. Ён баіцца сьмерці. «Апазыцыя вострыць шаблі», — паведаміў ён прыкормленым расейскім журналістам. Ён ня можа ўявіць, як гэта дэмакраты не папомсьцяцца на ім, як гэта Эўропа ня выдасьць яго кашчавай і бязносай. Ён баіцца суду. Яму хацелася б пазьбегнуць усякае адказнасьці. Бо трэ будзе адказаць на пытаньні: хто загадаў зьбіваць народных прадстаўнікоў у зале паседжаньняў парлямэнту, дзе абяцанае кіно з гэтым зьбіваньнем, дзе Юры Захаранка, Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі і Зьміцер Завадзкі? Ён баіцца (бо такое ў гісторыі не навіна), што ягоныя ж паплечнікі, міністры, пракуроры і судзьдзі стануць галоўнымі сьведкамі абвінавачаньня і плакацьмуцца, як яны пакутавалі ад свайго шэфа, звальвацьмуць на яго ўсю віну і адказнасьць. Таму ён увесь час тасуе адну і тую ж калоду і запалохвае яе.

Яму нічога не застаецца, як аберуч трымацца за ўладу. Улада патрэбная яму і каб пазьбегнуць адказнасьці, і таму што ня выветрылася мара пра «шапку Манамаха». Ну, не ўдалося абыграць Крэмль у бізантыйскіх гульнях у першым раўндзе, не ўдалося ўскочыць на ўсерасейскі прастор у 2000 годзе — мажліва, удасца другі раз: а раптам у Пуціна, які ў 2008 г. пойдзе ў адстаўку, будзе слабы пераемнік, а раптам у самы бліжэйшы час у Расеі здарыцца форс-мажорная сытуацыя?

Мы нават не здагадваемся, колькі сродкаў траціцца дзеля «шапкі Манамаха». У прыватнасьці, якія сумы выдаткоўваюцца на рэклямна-інфармацыйныя мерапрыемствы ў расейскіх рэгіёнах, на працу ў маскоўскіх калідорах улады. Дзеля гэтае мэты й вядзецца далейшая русіфікацыя Беларусі, дзеля яе й стараюцца ўбіць у галовы паспалітага люду, што саюз Беларусі й Расеі — рэальнасьць.

Гэтай мэце падпарадкаваная сёньня й галоўная задача — пераседзець Пуціна. А каб пераседзець Пуціна, трэба ўтрымаць уладу ў Беларусі. Якімі сродкамі і мэтадамі? Яшчэ ў 1998 г. было вядома, што пры захаваньні старога выбарчага закону, на падставе якога ўдалося прыйсьці да ўлады, выбары выйграць ня ўдасца. Нават для таго, каб вырваць «элегантную перамогу» паводле новага выбарчага закону, у 2001 г. спатрэбіліся не абы-якія намаганьні. А тым часам электаральная падтрымка ўпала ніжэй ад калена. І гэта — праблема сродкаў і мэтадаў утрыманьня ўлады ў Беларусі — ёсьць прычынаю галаўнога болю, які даймае яго і ягонае найбліжэйшае атачэньне.

**Анатоль Сідарэвіч** /Н. Н./

**********************************************************

Анатоль Лябедзька

# "Ненармальныя"

Будзем шчырымі Афрыка -- кантынент далёкі, але нам не чужы. Магчыма, мы не такія ўжо і блізкія суродзічы, але агульнага ў нас шмат. Сістэма кіравання, адносіны да правоў чалавека, прэсы, парламентарызму, самакіравання. Мы, быццам той агурок з агульнай бананавай звязкі. Забаронены ў нас для паказу спектакль "Прынц Мамабук" -- рэч аўтабіяграфічная, што для рэжыму ў Беларусі, Ліберыі, Лівіі ці Судана. Гэта якраз пра нашу і іх рэчаіснасць.

Дарэчы, і на перавароты ў Афрыкі няма эксклюзіўнага права. Мы тут з імі канкуруем, і не беспаспяхова. У лістападзе 1996 года ў нас публічна згвалцілі Канстытуцыю і правялі класічны дзяржаўны пераварот. Гвалтаўнікі атрымалі... 10 гадоў праўлення ў Беларусі. Тэрмін дастатковы, каб гвалт, страх, насілле сталі дзяржаўнай палітыкай. Сем гадоў назад мясцовы матрос Жалязняк не пусціў дэпутатаў Вярхоўнай Рады 13-га склікання ў залу пасяджэнняў. Нешта падобнае адбылося ў сераду ў Нацыянальным дзяржаўным гуманітарным ліцэі.

Каля двух дзесяткаў амапаўцаў, чатыры падпалкоўнікі і тузін міліцыянтаў захапілі будынак ліцэя і прылеглую тэрыторыю. Фактычным дырэктарам навучальнай установы з 6 жніўня стаў дзядзька ў пагонах. І не мае значэння, якое ў яго прозвішча: падпалкоўнік Вераб'ёў ці Мухамедаў. Цяпер ён, а не Уладзімір Колас галоўная асоба ў будынку, што па вуліцы Кірава.

Ці ёсць надзея, што розум пераможа дзікунства? Ці ёсць шанц знайсці кампраміс з уладай? Шукаць праўду ў кабінетах гарадскіх чыноўнікаў бессэнсоўна. Той, хто не ўплывае на прыняцце рашэння, не здольны яго мяняць. Лёс ліцэя быў прадвызначаны. Да геніяльная ідэя закрыцця ўнікальнай навучальнай установы належыць асабіста Аляксандру Лукашэнку, аб чым беларускі кіраўнік цынічна прызнаўся, прызначаючы на пасаду новага міністра адукацыі.

Для Лукашэнкі ліцэй не што іншае, як "гнездо, свитое оппозицией". Навучальная ўстанова катэгарычна не ўпісвалася ў існуючую сістэму. Увесь менеджмент беларускай улады зводзіцца да поўнага, татальнага кантролю над працэсам. Лукашэнка хоча кантраляваць усё. Грошы беларускага падаткаплацельшчыка, прэсу, гінекалогію, сяўбу, прыём экзаменаў, змест падручнікаў. Калі гэтага не атрымліваецца, то рэалізоўваецца палітыка бульдозера. А цяпер уявіце стан Рыгоравіча. Усяго за квартал ад "Чырвонага дома" -- выспа вальнадумства, дзе песцяць не Паўлікаў Марозавых, а Кастусёў Каліноўскіх. Амаль 200 маладых людзей. і гэта за кошт дзяржавы. А дзяржава гэта ж ён. Звар'яцець можна.

Рэжыму не патрэбна школа, якая выхоўвае грамадзяніна, асобу. Ёсць попыт на стары савецкі канвеер па вытворчасці "саўка", двухногай шэрай істоты. Лепш пустазелле, але не дай бог белыя і чырвоныя кветкі.

І яшчэ адзін штрых да сілавой аперацыі па зачыстцы тэрыторыі ліцэя ад дзяцей, іх бацькоў, проста неабыякавых людзей. Свае дзеянні сілавікі абгрунтавалі тым, што быццам бы людзі перашкаджалі ладзіць рамонт будынка ліцэя. Але гэта фармальны бок справы, бо ўся праца будаўнікоў звялася да дзесяціхвіліннай устаноўкі рыштаванняў.

Шэры камуфляжны ланцуг АМАПу, нібыта змяюка, абвіў выкладчыкаў, навучэнцаў і іх бацькоў, якія, узяўшыся за рукі, селі на зямлю. Бясспрэчна, што фізічная перавага была на баку амапаўцаў. Але ў вачах 14-гадовых дзяўчынак ні страху, ні роспачы. Супрацьстаянне духу і кулака. Звычайная з'ява часоў праўлення ППРБ. Натуральна, што эмоцыям было цесна ў гэтых абдымках. Адзін з кіраўнікоў амапаўцаў кінуў праз зубы: "Вы в большинстве ненормальные".

Для афіцэра ненармальна, што бацькі і дзеці хочуць людзьмі звацца, што змагаюцца за свае правы. А што ж тады нармальна, таварыш старшы лейтэнант? Нармальна, калі затрыманага па распараджэнні старшыні КДБ і з санкцыі намесніка Генеральнага пракурора, кіраўніка спецпадраздзялення Паўлічэнку выпускаюць па асабістым указанні таго, хто называе сябе гарантам Канстытуцыі. Больш таго, гэтага чалавека, якога КДБ і пракуратура падазравалі ў арганізацыі выкраданняў і забойстваў людзей, рэкламуюць на Беларускім тэлебачанні як нацыянальнага героя.

Нармальна, калі самага знакамітага беларуса Васіля Быкава цкавалі і гналі з Бацькаўшчыны. Нармальна, калі закрываюць газеты за тое, што яны пішуць праўду пра ценявы бюджэт ці судовыя расправы над іншадумцамі.

Падзеі вакол коласаўскага ліцэя перасталі быць справай выкладчыкаў, навучэнцаў і іх бацькоў. Настала чарга здаваць экзамен грамадскасці. І няхай адзнаку выстаўляць дзеці.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# ЗВАРОТ да суродзічаў...

Дарагія суродзічы!

Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа - адзіная ў нашай краіне сярэдняя навучальная ўстанова ліцэйска-гімназіяльнага тыпу, дзе ўсё выкладаньне вялося па-беларуску, на падставе арыгінальных аўтарскіх праграмаў, на грунце сапраўднага дэмакратызму й глыбокае павагі да асобы навучэнца.

Створаны ў 1990 годзе як недзяржаўная навучальная ўстанова, Гуманітарны ліцэй сабраў дзеля выкладаньня ці не найлепшыя інтэлектуальныя сілы. У 1991 годзе, калі ў краіне пачаліся зьмены да лепшага, Ліцэй стаў дзяржаўным і заняў будынак у цэнтры гораду на вул. Кірава, 21. Калектыў Ліцэю на чале зь пэдагогам і рэжысэрам Уладзімерам Коласам - гэта мастацкі перакладнік і мэтадыст Лявон Баршчэўскі, прафэсар-літаратуразнаўца Міхась Тычына, перакладнік Сьвятога Пісьма й "Фаўста" Васіль Сёмуха, аўтар падручнікаў гісторыі Павал Лойка, кіраўнічка нацыянальных камандаў на сусьветныя алімпіяды школьнікаў у геаграфіі Ірына Сідарэнка ды шмат іншых выдатных спэцыялістаў. У выніку практычна ўсе выпускнікі ліцэю штогод паступалі ў беларускія й замежныя ўнівэрсытэты, рэгулярна перамагалі на беларускіх і сусьветных алімпіядах школьнікаў у розных дысцыплінах, ліцэй прыняты ў партнэрскую сетку United World Colleges.

Здавалася б, дзяржава павінна ўсяляк падтрымліваць школу, якая гадуе сапраўдных патрыётаў у духу свабоды й глыбокае павагі да ведаў. Але цяперашняе кіраўніцтва краіны, якое баіцца й ненавідзіць высокаадукаваных і свабодных людзей, вырашыла расправіцца з гэтым агмянём беларушчыны.

25 чэрвеня сёлета Савет Міністраў выдаў пастанову № 850 "Аб ліквідацыі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа". У ёй не называюцца прычыны ліквідацыі. Пастанова парушае дзейнае заканадаўства аб правах бацькоў і дзяцей выбіраць мову навучання і навучальную ўстанову, а менавіта арт. 49, 50 Канстытуцыі і 51 Закону "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", якія гарантуюць даступнасьць і бясплатнасьць агульнай сярэдняй адукацыі, даюць права выбару установы адукацыі й мовы навучання для нашых дзяцей. Яна парушае арт. 13 Міжнароднага пакту "Аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах" ААН, арт. 2,3 і 30 Канвэнцыі ААН "Аб правах дзіцяці". Паводле Канвэнцыі ААН "Аб барацьбе з дыскрымінацыяй у галіне адукацыі" ад 14.12.1960 беспадстаўную, нічым не абгрунтаваную ліквідацыю Ліцэю мы расцэньваем як дыскрымінацыю па моўнай і нацыянальнай прыкметах у галіне адукацыі.

Увесь гэты час бацькі, выкладчыкі, ліцэісты вялі нястомную барацьбу за свае правы. Яны стаялі ў пікетах, выходзілі на шэсьці, зьбіралі подпісы, падавалі заявы ў суды й пракуратуру. Улады некалькі разоў ужывалі сілу супраць дарослых і дзяцей - абаронцаў ліцэю.

Разам з тым на працягу ліпеня Менскае гарадзкое ўпраўленьне адукацыі абяцала бацькам ліцэістаў і выкладчыкам, што замест Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа будзе створаны нейкі "Менскі гарадзкі гуманітарны ліцэй", у якім і змогуць надалей вучыцца па-беларуску дзеці й працаваць выкладчыкі. Насамрэч гэтыя абяцанкі былі звычайнаю хлусьнёю. Гарадзкія адукацыйныя чыноўнікі спрабавалі ціснуць на бацькоў, каб тыя пагадзіліся аддаць сваіх дзяцей у іншыя школы, сярод якіх няма ніводнае сапраўды беларускамоўнае. Пэдагогам жа заяўлена, што ніводзін зь іх ня будзе ўзяты на працу ў гарадзкія навучальныя ўстановы. Будынак зьлік-відаванага ліцэю заняты міліцыяй, якая сілай выкінула зь яго бацькоў і ліцэістаў.

Пад перамовамі й спадзевамі падведзеная рыса 13 жніўня. У гэты дзень пісьмова запрошаныя чыноўнікамі на чарговую гутарку бацькі зь дзецьмі-ліцэістамі накіраваліся ў гарадзкое ўпраўленьне адукацыі. Але там іх сустрэлі людзі ў цывільным, якія назваліся работнікамі міліцыі й сілай не пусьцілі ліцэйскую дэлегацыю ў будынак. Гэтыя "ахоўнікі парадку" паднялі руку нават на дзяцей. Жорстка зьбітую13-гадовую Кацю Раковіч з траўмай нагі машына "хуткай дапамогі" зьвезла ў Дзіцячы хірургічны цэнтар. Нашыя дзеці становяцца ня толькі маральнымі, але фізічнымі ахвярамі вайны супраць беларускае школы!

Але мы ня маем права здавацца. Сёньня барацьба за Ліцэй - гэта барацьба за Беларусь, за яе будучыню. Мы, пэдагогі, бацькі навучэнцаў і ліцэісты, маем намер 1 верасьня прыйсьці да будынку нашага Ліцэю й пачаць вучобу на нашай мове й паводле нашых праграмаў - хай сабе нават на вуліцы. Мы навучым нашых дзяцей у любых умовах, але сёньня мы ня ведаем нават, якім чынам яны атрымаюць атэстаты аб сярэдняй адукацыі стандартнага ўзору. Таму, працягваючы заняткі, мы будзем намагацца зарэгістраваць недзяржаўны Гуманітарны ліцэй (што ў нашай краіне вельмі нялёгка).

Дарагія суродзічы, НАМ ПАТРЭБНАЯ ВАШАЯ НЕАДКЛАДНАЯ ДАПАМОГА!

Па-першае, просім Вас зьвярнуцца да парлямэнтаў і ўрадаў Вашых краінаў з просьбай чыніць ціск на кіраўніцтва Беларусі й патрабаваць спыніць нахабнае парушэньне правоў чалавека, якім ёсьць ліквідацыя Ліцэю.

Па-другое, просім тых з Вас, хто зьвязаны з унівэрсытэцкай адукацыяй, высьветліць магчымасьці здабыцьця мэтавых стыпэндыяў для навучаньня выпускнікоў нашага Ліцэю ў іншаземных унівэрсытэтах. Такая пэрспэктыва сама па сабе ёсьць моцнаю маральнаю падтрымкаю для Ліцэю.

Па-трэцяе, для арганізацыі альтэрнатыўнага навучальнага працэсу патрэбныя матэрыяльныя рэсурсы (дошкі ды іншыя навучальныя прылады; падручнікі, слоўнікі, энцыкляпэдыі, папера; кампутары ды іншая тэхніка; урэшце, памяшканьні). Любая дапамога тут будзе дарэчы.

**Змаганьне працягваецца. Разам мы пераможам!**

*Грамадзкі камітэт абароны Беларускага ліцэю.*

**********************************************

Пабежную інфармацыю пра становішча вакол Ліцэю Вы можаце атрымаць на старонцы Сеціва http://licej.org Кантактуйце з намі на адрас licej@licej.org, на факс +375 17 2205941, на тэлефоны +375 17 2242738 (Уладзімер Колас), +375 29 6703085 (Рэгіна Зімніцкая).



© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



Андрэй Катлярчук

# Чаму беларусы не апанавалі літоўскай спадчыны

ARCHE

*Timothy Snyder. The Reconstruction of Nations. Poland, Ukraine, Lithuania, Belarus 1569—1999. — Yale University, 2003. — 367 p.*

Сёлета ў ЗША выйшла манаграфія выкладчыка польскай і ўсходнеэўрапейскай гісторыі Ельскага ўнівэрсытэту Цімаці Снайдэра "Адбудова нацый. Польшча, Украіна, Летува, Беларусь". Нягледзячы на сваю маладосьць (год нараджэньня — 1962), Цімаці Снайдэр досыць вядомы дасьледнік гісторыі нашай часткі Эўропы. Ягоная першая праца "Nationalism, marxism, and modern Central Europe: a biography of Kazimierz Kelles-Krauz, 1872—1905" (1997, Украінскі дасьледчы інстытут Гарвардзкага ўнівэрсытэту) атрымала прэмію Оскара Халецкага, што прысуджаецца за найлепшыя дасьледаваньні ўсходнеэўрапейскай гісторыі.

Другая работа Снайдэра мае ўсе шанцы стаць навуковым бэстсэлерам. Не шукаючы простых адказаў на складаныя пытаньні, аўтар паспрабаваў паглядзець на драматычныя, часам брутальныя факты гісторыі нацыянальных рухаў народаў былой Рэчы Паспалітай з пункту гледжаньня нэўтральнага навукоўца, не заангажаванага ў нацыяналістычную летувіскую ці беларускую, польскую ці ўкраінскую гістарыяграфію. Кніга чытаецца як прафэсійны й адначасова дэтэктыўна цікавы твор. Складаецца яна з трох частак, прысьвечаных адпаведна Вялікаму Княству Літоўскаму (Летуве й Беларусі), Украіне й Польшчы.

У гэтым артыкуле гаворка пойдзе толькі пра беларуска-летувіскую частку працы (сс. 13—102). Ужо ейная назва "Спрэчкі за летувіска-беларускую Айчыну" робіць сэнсацыю, бо амаль упершыню (калі не лічыць англамоўных працаў нашых эмігрантаў) у сучасны заходні дыскурс гісторыі Літвы ўводзіцца, як паўнапраўная ўдзельніца, Беларусь. Падразьдзел мае наступны зьмест:

— Вялікае Княства Літоўскае (1569—1863);
— Літва! Мая айчына (1863—1914);
— Першая сусьветная вайна і пытаньне Вільні (1914—1939);
— Другая сусьветная вайна і пытаньне Вільнюсу;
— Эпілёг: савецкі летувіскі Вільнюс (1945—1991).

Пачынаецца тэкст з славутых радкоў Адама Міцкевіча "Літва! Мая Айчына, ты як здароўе...", ад якіх адштурхоўваюцца аўтарскія развагі пра лёс ВКЛ. Ужо першы сказ задае плянку дыскусіі: *"Калісьці Вялікае Княства Літоўскае дамінавала на ўсходзе Эўропы. З 1991 году Літоўская Рэспубліка — гэта маленькая краіна на ўзьбярэжжы Балтыйскага мора. Вільня, былая сталіца ВКЛ, сёньня сталіца сучаснай Рэспублікі. Паўтысячагодзьдзя перад 1991 годам летувіская мова не была ані моваю віленскіх уладаў, ані моваю віленскіх вуліц. Да другой сусьветнай вайны гутарковай мовай трэцяй часткі віленскіх дамоў была жыдоўская; мовою вуліц, касьцёлаў і школ была польская; моваю наваколься была беларуская. У 1939 амаль ніхто ў Вільні не гаварыў па-летувіску"* (с. 15).

Аўтар задаецца пытаньнем: як адбыліся гэткія вялізныя перамены, як сталася, што сёньня ВКЛ асацыюецца на Захадзе выключна з сучаснай Летувой? Каб адказаць на гэтае пытаньне, ён пачынае з тлумачэньня, што Вялікае Княства Літоўскае й Рускае заўсёды было дзяржаваю дзьвюх элітаў, балцкай і ўсходнеславянскай. Пра гэта сьведчыць тытулятура гаспадароў ВКЛ як "вялікіх князёў літоўскіх і рускіх". Пад літоўскімі (Litvanorum) і русінскімі (Ruthenirum) меліся на ўвазе перадусім палітычныя эліты, баяры, а не шматэтнічныя месты ці вёска. Кажучы пра колькасную перавагу ўсходнеславянскай эліты, Снайдэр зазначае, што нават перад Крэўскай уніяй 1385 году ў рэлігійным і моўным сэнсах Літва была больш праваслаўнай, славянскай, чымся паганскай балцкай дзяржавай. Цэнтар праваслаўя перамясьціўся з Кіева ў Вільню (с. 17). Менавіта таму Ягайла вагаўся паміж праваслаўем і каталіцтвам. Ёсьць зьвесткі, што ў 1382 годзе Ягайла меўся ажаніцца з дачкой Дзьмітрыя Данскога ды прыняць праваслаўе. Ад такога пляну ён адмовіўся зь дзьвюх прычынаў. Першае — праваслаўе не абараніла б Літвы ад Ордэну. Па-другое, гэты крок азначаў бы канчатковае дамінаваньне славянскай эліты ў ВКЛ, што магло выклікаць грамадзянскую вайну (с. 18). Тым ня менш, пасьля пэрсанальнай уніі Літвы й Польшчы ўрад карыстаўся трыма мовамі: супольнай лацінскай, польскай у Польшчы ды, згодна з вызначэньнем Снайдэра, блізкай да беларускай "афіцыйнай славянскаю мовай" (Chancellery Slavonic) у ВКЛ. Апошні вялікі князь, які ведаў балцкую мову, Казімер, памёр у год, калі Калюмб адкрыў Амэрыку (с. 32). У дачыненьнях з элітай ВКЛ Казімер, апошні балцкамоўны гаспадар літоўскі, карыстаўся старабеларускай мовай. Гэтая мова стала мовай права і адміністрацыі. Гэта значыць, выбар прыйшоўся на мову, зразумелую ўсёй палітычнай нацыі Літвы. У часы гаспадарства Казімера ў Рэчы Паспалітай былі надрукаваныя першыя кнігі, але не па-летувіску, а на польскай ды царкоўнаславянскіх мовах. Першадрукар Літвы Францішак Скарына друкаваў кніжкі беларускім варыянтам царкоўнаславянскай мовы. Літаратура ВКЛ таксама да XVI стагодзьдзя стваралася выключна на "рускай" мове. Гэтая мова была гутарковаю мовай шляхты й жыдоў ВКЛ, моваю Статутаў ВКЛ і моваю палітычнага жыцьця дзяржавы. Яна адрозьнівалася ад расейскай актавай мовы Маскоўшчыны, "маскоўскай" з пункту гледжаньня ліцьвінаў. Маскоўская эліта называла дзяржаўную мову ВКЛ "літоўскай" альбо "беларускай" ды перакладала беларускія тэксты (с. 19).

Такім чынам, згодна з высновамі Снайдэра, у палітычных структурах ВКЛ дамінавала ўсходнеславянская (протабеларуская) этнічная група, што ў пэрспэктыве стварала добрыя шанцы для беларускага нацыяналізму адаптаваць спадчыну ВКЛ у Новы час. Але гэтага не адбылося.

Пасьля Люблінскай уніі 1569 году руская эліта ВКЛ, паводле Снайдэра, хутка паланізавалася (с. 20—25). З таго часу шляхціц ВКЛ натуральна мог быць "ліцьвінам" па паходжаньні, "палякам" па палітычнай сьведамасьці й "русінам" па канфэсіі (с. 24). Менавіта ў такім асяродзьдзі праз тры гады па сконе Рэчы Паспалітай нарадзіўся самы славуты ў сьвеце ліцьвін Адам Міцкевіч. Снайдэр заўважае, што толькі паўсталы ў другой палове XIX стагодзьдзя нацыяналізм стварыў парадокс, калі адзін паэт пачаў лічыцца геніем трох розных народаў. Палякі зрабілі Міцкевіча сымбалем Польшчы. Летувісы трансфармавалі Міцкевіча ў нацыянальнага паэта Літвы. Між тым, на думку Снайдэра, Міцкевіч, які меў праваслаўныя і жыдоўскія карані, паводле сучаснай дэфініцыі *"ня быў ні польскім, ні летувіскім, але беларускім паэтам"* (с. 29). Ён нарадзіўся і стварыў свайго "Пана Тадэвуша" на ўсходнеславянскай зямлі ВКЛ, сярод сялянаў, якіх сёньня ўвесь сьвет ведае як беларусаў (с. 29). Згодна з сучаснай лёгікай Міцкевіч ёсьць прадстаўніком дамінуючай этнічнай групы былога ВКЛ — беларусаў, а ня польскамоўнай шляхты ці балцкай меншасьці, таму ён беларускі паэт. Менавіта так вырашаюцца гэтыя пытаньні ў сучасным сьвеце. Але гэта цяпер. Снайдэр падкрэсьлівае, што для часоў Міцкевіча быць ліцьвінам значыла натуральна ўспрымаць як цэлае часткі адной мясцовай традыцыі — польскую, беларускую й летувіскую. Напрыклад, паўстанец 1863 году Якуб Гейштар (1827—1897), што лічыў сябе палякам, заснаваў прыватную летувіскую школу для сялянаў. Ён ня бачыў у гэтым ніякай супярэчнасьці. Кастусь Каліноўскі і Антанас Мацкявічус, якія ў сучаснай Беларусі й Летуве лічацца бацькамі адпаведна беларускага і летувіскага нацыяналізму, карысталіся польскай мовай і бачылі будучыню толькі ў адбудове фэдэрацыі ВКЛ і Польшчы (с. 30). Роднай мовай аднаго з самых вядомых у сьвеце летувісаў Мікалаюса Чурлёніса была польская, летувіскай мове ён навучыўся ў сталым веку ад сваёй жонкі (с. 100). Толькі працэс крышталізацыі польскага, беларускага й летувіскага рухаў паставіў перад мясцовай элітай пры канцы XIX — на пачатку XX стагодзьдзяў праблему выбару й самаідэнтыфікацыі. Агульнавядомы прыклад братоў Іваноўскіх, адзін зь якіх стаўся лідэрам беларускіх нацыяналістаў, другі — летувіскім прафэсарам, урэшце, трэці — польскім палітыкам. Снайдэр дадае іншы прыклад — ліцьвінскую шляхецкую сям'ю Нарутовічаў. Адзін сын, Габрыэль, стаўся першым прэзыдэнтам Польшчы, другі, Станіслявас, — сябрам "Тарыбы", першага кіраўнічага органу незалежнай Літвы (с. 70).

У другой частцы, *"Літва, мая Айчына (1863—1914)"*, Снайдэр аналізуе тое, якім чынам спадчыну ВКЛ адаптавалі сучасныя летувіскі, беларускі рухі, польскія краёўцы ды расейскія палітычныя колы. Першым разглядаецца летувіскі нацыянальны рух. Снайдэр піша, што росквіту летувіскага руху па 1863 годзе паспрыяла палітыка расейскіх уладаў. Пасьля паўстаньня 1863 году расейская аналітыкі вырашылі ў супрацьвагу моцнаму польскаму руху падтрымаць летувіскі нацыяналізм. У выніку дзяржаўная расейская вышэйшая вучэльня ў летувіскім Марыямпалі стала кузьняй летувіскай эліты. Мову балцкіх сялянаў царская ўлады зрабілі ў гэтай вышэйшай вучэльні мовай навучаньня.

Летувіская гістарычная і мастацкая літаратура ідэалізавалі ВКЛ да 1569 году і трактавалі яго гісторыю пасьля Люблінскай уніі з выразным антыпольскім ухілам. Для летувісаў гэтая унія сталася сымбалем нацыянальнай катастрофы накшталт бітвы ля Белай Гары для чэхаў. Выпускнікамі вучэльні ў Марыямпалі былі "бацькі" летувіскага руху канца XIX — пачатку XX стагодзьдзя Ёнас Басанавічус (пазьней выпускнік Маскоўскага ўнівэрсытэту) ды Вінцас Кудзірка (с. 36—38). Абодва дзеячы ігнаравалі складаную ў сэнсе этнічнай дэфініцыі гісторыю ВКЛ ранейшага Новагу часу і канцэнтраваліся на, як здавалася, зразумелым і слаўным балцкім Сярэднявеччы (с. 39). Заўважым, што летувіская гістарыяграфія дагэтуль хварэе на гэтыя хібы. У выніку летувісы з згоды расейскіх уладаў выбудавалі міт ВКЛ як этнічна "літоўскай" дзяржавы. Гэты міт зрабіўся фундамэнтам, на якім летувіскія дзеячы пачалі адбудову новай летувіскамоўнай Літвы. Каб аддаліць летувіскі альфабэт ад польскага, за аснову правапісу быў узяты чэскі варыянт.

На працягу трох стагодзьдзяў шляхта ВКЛ існавала ў сьвеце польскай мовы і культуры. Таму ліцьвіны — шляхта польскай культуры — досыць варожа паставіліся да плебэйскага летувіскага руху, на чале якога стаялі ксяндзы сялянскага паходжаньня ды дзеці свабоднага заможнага сялянства, хутаранаў (у сэрцы летувіскага руху, на Сувальшчыне, прыгон быў скасаваны на пачатку XIX стагодзьдзя). Іншым было стаўленьне да беларускага руху. Тая самая польскамоўная шляхта брала масавы ўдзел у стварэньні беларускага руху, разглядаючы яго як частку агульнапольскага. Тутэйшыя польскамоўныя магнаты-"краёўцы" падтрымлівалі беларускіх актывістаў. У сваю чаргу, беларускія дзеячы мелі сымпатыі да ідэі адбудовы Польска-Літоўскай фэдэрацыі.

Як падкрэсьлівае Снайдэр, "бацька" новай польскай Рэспублікі Юзаф Пілсудзкі нарадзіўся ў шляхецкай (дадамо: і лютэранскай) сям'і на тэрыторыі былога ВКЛ, быў і лічыў сябе ліцьвінам, гаворачы па-польску ўдома, па-беларуску на двары й па-расейску ў сібірскай ссылцы (с. 41). Ліцьвінам быў "бацька" Сярэдняй Літвы генэрал Люцыян Жалігоўскі — зь летувіскага пункту гледжаньня "акупант". Жалігоўскі таксама ўмеў гаварыць па-польску, па-беларуску ды па-расейску, бо меў жонку-расейку й быў афіцэрам царскага войска (с. 64). Як Пілсудзкі, так і Жалігоўскі не гаварылі па-летувіску, ня ведалі летувіскай ці жмудзкай культуры, але іх родным домам была Літва. Будучыню адноўленага ВКЛ яны бачылі толькі ў фэдэрацыі мультыкультурнай Літвы з Польшчай.

Адначасова зь летувіскім рухам зарадзіўся нацыяналізм беларускі. Снайдэр падкрэсьлівае, што, як дамінуючая этнічная група на землях былога ВКЛ, беларусы мелі ўсе шанцы перамагчы ў барацьбе за літоўскую спадчыну (с. 42). Ён дадае, што "этнічная група" беларускамоўных сялянаў колішняй Літвы была ў дзесяць разоў большай за яе балцкамоўных суседзяў. Першыя беларускія пісьменьнікі-ліцьвіны Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і Ян Чачот пачалі працу ў слушным кірунку. Дунін-Марцінкевіч пераклаў і надрукаваў па-беларуску культавую кнігу ліцьвінаў — "Пана Тадэвуша" (тое самае зрабілі летувісы). Чачот стварыў нізку рамантычных баладаў з гісторыі ВКЛ, сабраў ды надрукаваў багаты беларускі фальклёр, працаваў над граматыкай мовы. Кампліманты на адрас гаворкі беларусаў выказаў ягоны сябра Адам Міцкевіч. Такім чынам, першыя актывісты хацелі адаптаваць спадчыну ВКЛ пад патрэбы новага беларускага руху. Ліцьвінам, шляхціцам паводле паходжаньня, быў "бацька" беларускай гістарыяграфіі, найбуйнейшы знаўца ВКЛ прафэсар Мітрафан Доўнар-Запольскі. З падвіленскай каталіцкай ліцьвінскай сям'і паходзіў "бацька" беларускай граматыкі Браніслаў Тарашкевіч (с. 66). З карэнных віленчукоў быў "бацька" беларускай драматургіі Францішак Аляхновіч. Тым ня менш, летувіскі нацыянальны рух здолеўператварыць сялянскую масу ў нацыю, а беларускі — не.

Нягледзячы на поўнае гістарычнае права, сучасныя беларускія дзеячы гэтак і ня здолелі адаптаваць літоўскай спадчыны і такім чынам крышталізаваць этнічную беларускамоўную большасьць Літвы ў сучасную нацыю. Чаму так адбылося? Адказ аўтара на гэтае пытаньне, на маю думку, ёсьць найцікавейшым месцам кніжкі (сс. 44—49). Першае — гэта сацыяльнае паходжаньне "абуджальнікаў нацыі". Тут летувісы мелі значную перавагу над беларусамі. Першае пакаленьне летувіскай інтэлігенцыі складалі дзеці заможных сялянаў — настаўнікі і ксяндзы. Гэтай сацыяльнай групе вельмі лёгка было пабудаваць з нуля новую монаэтнічнаю інтэрпрэтацыю гісторыі Літвы, у якой беларусам і палякам месца не было, заняць выразна антыпольскую пазыцыю. Першае пакаленьне беларускіх дзеячоў складалася з шляхціцаў і шляхцянак — простых нашчадкаў гістарычнай Літвы. Яны былі часткаю гэтай векавечнай шматкультурнай (беларуска-польска-летувіска-жамойцка-жыдоўска-татарскай) традыцыі, што не дазволіла ім вызначыць асобны беларускі

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



шлях. Ідэя монаэтнічнай беларускай Літвы іх ня вабіла, бо была для іх відавочнаю хлусьнёй (с. 46).

Важным чыньнікам стаўся моўны фактар. Беларуская мова як славянская даволі блізкая да польскай і расейскай. Таму нават трохі адукаваны беларус заўсёды мог задаволіцца польскім ці расейскім тэкстам. Гэта моцна звужала рынак беларускага друку. Летувіская мова, наадварот, вельмі розьніцца ад славянскіх. Такім чынам, філялягічны факт вырашыў лёс нацыі. Да таго ж, пасьля паўстаньня 1863 году царскі ўрад заахвочваў летувіскую асьвету і друк (хай сабе й кірылічны), тады як беларуская мова ў той самы час апынулася пад забаронай.

Калі летувісы мелі нацыянальны касьцёл, касьцельны друк і адукацыю, беларусы па зьнішчэньні ў 1839 годзе ўніяцкай царквы згубілі сваю канфэсійную нішу. Снайдэр адзначае, што гэтую, на пачатку ХІХ стагодзьдзя ўжо моцна спаланізаваную царкву ня трэба ідэалізаваць. Тым ня менш, ува ўмовах існаваньня паміж расейскім і польскім уплывамі менавіта ўніяцкая царква фармальна мусіла выканаць ролю фундамэнту нацыятварэньня.

Нарэшце, калі ў летувісаў была база для разгортваньня свайго руху — пруская "малая Летува", дзе ў спрыяльных для разьвіцьця ўласнай культуры ўмовах пражывала каля 100000 балтаў, усе беларусы цалкам апынуліся ў межах Расейскай імпэрыі. Гэта пазбавіла іх вялікіх магчымасьцяў кантакту з Эўропай, падтрымкі з боку заўсёды больш нацыяналістычнай заходняй дыяспары, распаўсюджваньня ведаў пра свае нацыянальныя патрэбы ў сьвеце, зацікаўленасьці ў разыгранцы беларускай карты з боку іншых дзяржаваў. Дададмо, што менавіта нямецкі (прускі) фактар быў вырашальны ў справе дасягненьня Летувой незалежнасьці ў 1918 годзе, вырваў краіну з сфэры расейскага ўплыву.

Вось жа, такія фактары, як сацыяльнае паходжаньне нацыянальных дзеячоў, характар мовы й геаграфічная лякалізацыя, вызначылі, на думку Снайдэра, посьпех летувіскага й няўдачу беларускага старту (с. 47).

Апошні артыкул другой часткі прысьвечаны спробе расейскіх палітыкаў таксама адаптаваць спадчыну ВКЛ. Гуляючы на гістарычнай ролі "рускай" праваслаўнай шляхты ВКЛ, расейскія палітыкі пачалі адбудову міту пра Літву як "другую Заходнюю Русь" ці "Белую Расею". Цікава, што Снайдэр адзначае: галоўным праваднікох гэтай ідэі была ліцьвінская шляхта праваслаўнага паходжаньня, якая праз "рэправаслаўізацыю" нібыта павярталася да сваіх каранёў. Ліцьвінамі былі найбуйнейшыя пасьля Мураўёва-Вешальніка русіфікатары краю — віленскі генэрал-губэрнатар князь Пётра Сьвятаполк-Мірскі і варшаўскі генэрал-губэрнатар генэрал Язэп Гурко. Пагодзімся з аўтарам. Сапраўды, далёкі продак губэрнатара Пятра Мірскага стражнік літоўскі Рыгор Мірскі быў адным з апошніх праваслаўных магнатаў Літвы, заўзятым сэпаратыстам, адным з арганізатараў антыпольскай Кейданскай уніі ВКЛ з Швэцыяй 1655 году. Ягоны нашчадак Пётра Мірскі, праваслаўны ліцьвін і адначасова расейскі губэрнатар, лепей за расейцаў ведаў гісторыю й становішча краю. Ён даводзіў расейскаму ўраду, што беларусы-каталікі ня ёсьць палякамі, што трэба дазволіць летувісам друк лацінкай. Гэта ня значыць, што Мірскі падтрымліваў беларускі ці летувіскі рух, зусім не. Для яго гэта была барацьба перадусім з палянафільскай элітай. Ён проста ня бачыў самастойнае будучыні Літвы па-за межамі расейскага (альбо, як ягоныя браты-шляхта, "краёўцы", — польскага) кантэксту. Верыў ён у слушнасьць расейскацэнтрычнага шляху ці не — мы ня ведаем. Але права на гэта меў, бо Вільня і Літва былі і ягоным родным домам (сс. 50—51).

Частка трэцяя прысьвечаная барацьбе за Вільню паміж польскай, летувіскай і беларускай элітамі ў 1914—1939 гадох. Аўтар даводзіць, што на золку ХХ стагодзьдзя беларускі рух упершыню зрабіўся сур'ёзнай альтэрнатывай імпэрскай ідэі "Заходняй Русі" і важным чыньнікам тутэйшай палітыкі. Цэнтрам руху на пачатку ХХ стагодзьдзя была абраная колішняя сталіца Вільня, тамака друкаваліся газэта «Наша Ніва» й кніжкі, беларускія актывісты стварылі моцную пагрозу пэрспэктывам летувіскага руху, які таксама атабарыўся ў Вільні. Вакол гораду, які належаў Расейскай імпэрыі, але быў галоўным чынам польскамоўным, пражывалі беларусы, што складалі палову насельніцтва Віленскага краю — больш, чым палякі, летувісы, жыды й расейцы разам узятыя. Вільня заставалася таксама цэнтрам польскага "краёвага" руху ды таксама руху жыдоў-"літвакоў".

Летувіскі рух дзейнічаў згодна з уласнай стратэгіяй на сэпаратызм. Беларусы ўзаемадзейнічалі з палякамі, маючы на мэце адбудову шматкультурнага ВКЛ. Асноўнае насельніцтва гарадоў Літвы — жыды — часткова падтрымлівалі расейскую культуру, часткова — польскі рух. Прыхільнікаў саюзу зь летувісамі сярод жыдоў не было, бо кіраўнікі руху ня бачылі добрых для жыдоў пэрспэктываў у ідэі монаэтнічнай Літвы-Летувы.

Першая сусьветная вайна дэтанавала ўсе рухі. Разумеючы важнасьць чыньніку Вільні, летувіскі ўрад 1918 году менавіта тут, у славянска-жыдоўскім горадзе, абвесьціў сваю новую этнічную дзяржаўнасьць. У сваю чаргу, менскі ўрад БНР вызначыў Вільню неад'емнаю часткай незалежнай Беларусі, паўсталай у межах беларускага этнасу. Зварот Юзафа Пілсудзкага "Да жыхароў былога ВКЛ" знайшоў прыхільнікаў толькі сярод тутэйшых палякаў і беларусаў ды часткі жыдоў. Другі па сіле летувіскі палітычны рух рашуча адмовіўся ад абмеркаваньня гэтае тэмы. У выніку мясцовыя польскамоўныя ліцьвіны "польска-беларускай дывізіі" на чале з генэралам Жаліґоўскім увайшлі ў Вільню ды абвесьцілі стварэньне Сярэдняй Літвы, гэта значыць — Літвы паміж Літвой Жмудзкай і Літвой Беларускай. Яны былі сынамі гэтай зямлі і мелі на яе гістарычнае права. Сярэдняя Літва неўзабаве стала часткай Польскай дзяржавы.

Асобныя старонкі працы прысьвечаныя Беларускай ССР. Снайдэр піша, што, як калісьці летувісаў, у 1920-я гады Масква падтрымлівала беларускі рух у процівагу Польшчы. Важную ролю ў гэтым працэсе грала польская Заходняя Беларусь, брутальны вынік дамовы, падпісанай у Рызе. Менавіта тады настроі беларускіх дзеячоў з палянафільскіх памяняліся на антыпольскія.

Значны кавалак чацьвертай часткі прысьвечаны перадачы Вільні савецкім урадам буржуазнай Летуве ўвосень 1939 году (сс. 79—84). Варта зазначыць, што аўтар цудоўна ведае беларускі аспэкт гэтай мала дасьледаванай праблемы. Снайдэр піша, што напачатку савецкая прапаганда гуляла беларускай картай. На Віленшчыне пачаў выходзіць беларускі савецкі друк, ачуняла віленская беларуская "буржуазная" інтэлігенцыя. Савецкія газэты зьмяшчалі матэрыялы пра гістарычнае права беларусаў на Вільню, пра беларускі характар гістарычнай Літвы. Але пры канцы верасьня 1939 году Сталін перадумаў ды перадаў Вільню, што мусіла стацца сталіцай адзінай савецкай Беларусі, капіталістычнай Летуве. Беларушчына была вынішчаная разам зь дзеячамі віленскага нацыянальнага руху.

Трэба зьвярнуць увагу на высновы аўтара пра наступствы гэтага сталінскага кроку для лёсу беларусаў. Падзеі верасьня канчаткова вызначылі лёс беларусаў Віленшчыны, паставілі крыж на пэрспэктыве, што яны зробяцца часткай беларускай нацыі. Згодна зь лёгікай савецкай прапаганды, з гэтага часу Летува, а не Беларусь лічылася нашчадкам ВКЛ. Супадзеньне новай этнічнай назвы краіны і адвечнага палітоніму Літва толькі палегчыла гэты шлях. Усё разам азначала спыненьне гістарычных дасьледаваньняў ВКЛ у Беларусі, а значыць, поўнае забыцьцё пяцісотгадовай гісторыі і хваробу на амнэзію цэлага народу (с. 81). Вынікам другой сусьветнай вайны сталася татальная колькасная ды якасная зьмена насельніцтва Вільні. Жыды былі зьнішчаныя нацыстамі з дапамогай летувіскіх калябрантаў (сс. 84—87). Польская эліта і месьцічы былі прымусова дэпартаваныя ў Польшчу. Разам з палякамі выехала шмат адукаваных беларусаў. Адвечная шматкультурная сталіца Літвы згубіла свой твар, сталася *"местам безь імя"* — гатовым да любых этнічных экспэрымэнтаў (с. 89).

Апошняя частка першага падраздзелу працы найбольш вострая. Хіба ўпершыню ў заходняй гістарыяграфіі аналізуецца палітыка "літуанізацыі" Вільні ў паваенны час. Снайдэр адзначае, што летувіская прыказка "Vilnius mūsų, Lietuva Rusų" (Вільня летувіская, а Летува расейская) аказалася толькі прыказкай. Насамрэч Летува стала савецкай. Улічваючы моц нацыяналістычнай інтэлігенцыі і наяўнасьць мясцовых камуністаў, савецкі ўрад выкарыстаў у адносінах да Летувы мадэль усходнеэўрапейскага нацыянал-камунізму. Узамен за ляяльнасьць Масква дала карт-блянш на "літуанізацыю" Вільні. Калі Талін ці Рыгу хутка апанавала расейскамоўная працоўная сіла, Вільню павольна засяляла жамойцкая вёска. Коштам закрыцьця адзінага летувіскага ўнівэрсытэту ў Коўне летувісы адчынілі новы Вільнюскі ўнівэрсытэт (стары Віленскі ўнівэрсытэт выехаў у Польшчу). З установы шматкультурнай Вільнюскі ўнівэрсытэт пераўтварыўся ў кузьню кадраў для савецкай летувіскай эліты. Парадокс, але ў межах інтэрнацыянальнага СССР толькі ў Летувіскай ССР з дазволу Масквы побач з камуністычнай існавала нацыяналістычная ідэалёгія, заснаваная на гістарычных мітах, — рэч абсалютна немагчымая ў іншых рэспубліках. На падставе розных крыніцаў, у тым ліку статыстычных зьвестак, аўтар тлумачыць вытокі гэтага парадоксу, разьбірае крокі і мэтады літуанізацыі, абгрунтоўвае карысьць гэтага кампраміснага шляху для савецкага ўраду, мясцовых нацыяналістаў і камуністаў.

Што датычыцца недахопаў і памылак работы, дык яны, як і ў кожнай навуковай працы, ёсьць, але іх адносна няшмат. Перш за ўсё, крытычную ўвагу зьвяртае на сябе стратэгічны тэзыс аўтара пра імклівую культурную і палітычную самапаланізацыю шляхты ВКЛ адразу пасьля Люблінскай уніі 1569 году. Створанае клясычнай польскай гістарыяграфіяй, такое бачаньне не вытрымлівае крытыкі. Прыгадаем добра вядомы тэзыс, перадусім з працаў сучасных польскіх гісторыкаў (Генрык Люлевіч, Анджэй Рахуба, Генрык Віснэр, Зьбігнеў Войцік) пра сэпаратызм ліцьвінаў, які не згасаў да падзелаў Рэчы Паспалітай. Прыгадаем колькі фактаў, якія супярэчаць тэзе пра хуткую паланізацыю ліцьвінаў. Калі галоўнаму выдаўцу беларускамоўнага статуту ВКЛ 1588 году Ляву Сапегу прапанавалі падрыхтаваць таксама польскае выданьне, ён адказаў, што зрабіць пераклад будзе складана, бо яго веды польскай мовы не "грунтоўныя"[1]. Гэтак адказаў адзін з найадукаванейшых ліцьвінаў-русінаў ВКЛ. Што казаць пра звычайную дробную шляхту Пінскага ці Мсьціслаўскага паветаў, якая нават у XVIII стагодзьдзі штодзённа карысталася дыялектамі беларускай мовы. Вядома, што яшчэ пры канцы XVIII стагодзьдзя беларуская мова выконвала камунікацыйныя функцыі ў шляхецкім асяродзьдзі нават заходніх, "польскіх" паветаў ВКЛ. Як пісаў у 1820-х гадах Ян Чачот, старыя паны Навагрудзкага павету, "каторы зь іх яшчэ жывы", гавораць паміж сабой ня польскаю, але беларускаю мовай. Такім чынам, сьведчаньне Міцкевічавага сябра не супадае з тэзай Снайдэра, што вялікі польскі паэт нарадзіўся на зямлі беларускамоўных сялянаў і польскай шляхты Навагрудзкага павету. Паэт нарадзіўся ў асяродзьдзі "старых паноў" — беларускамоўнай у штодзённым жыцьці навагрудзкай шляхты канца XVIII — пачатку ХІХ стагодзьдзя. Менавіта пакаленьне Адама Міцкевіча і Яна Чачота было першым пакаленьнем цалкам польскамоўнай шляхты Літвы, якая карысталася беларускай (ці летувіскай) моваю толькі ў гутарках зь сялянамі. Пра гэта пісаў польскі дасьледнік Рышард Радзік, высновы якога адназначныя: татальная й канчатковая паланізацыя літоўскай шляхты адбылася па падзелах Рэчы Паспалітай, як культурная рэакцыя на палітычнае змаганьне з Расейскай імпэрыяй .

Вядома, што ў першай палове XVII стагодзьдзя магнацкія некаталіцкія роды ВКЛ, перадусім Радзівілы, Агінскія, Статкевічы, Мірскія, усё яшчэ кантралявалі значную частку ўлады і мелі моцны ўплыў на шляхту. Менавіта гэтая сацыяльная група падтрымлівала беларускі (праваслаўны) і летувіскі (кальвінскі) друк і культуру. На сярэдзіну XVII стагодзьдзя пратэстантамі былі гетман вялікі ВКЛ Януш Радзівіл, князь слуцкі, канюшы літоўскі Багуслаў Радзівіл, кашталян полацкі Томаш Касакоўскі, кашталян віцебскі Ян Сасноўскі ды іншыя ўплывовыя лідэры "літоўскай" нацыі. Праваслаўнымі былі ваявода менскі Аляксандар Агінскі, цівун троцкі Самуэль Агінскі, кашталян мсьціслаўскі Багдан Статкевіч, кашталян навагрудзкі Самуэль Статкевіч, стражнік ВКЛ Рыгор Мірскі . Іх паланізацыя ішла павальней, бо яны не былі каталікамі. Каля кожнага магната гуртавалася шляхецкая кліентура, якая мела няпольскую сьвядомасьць. Прыгадаем тут вядомую антыпольскую паводле зьместу "Прамову Мялешкі", створаную ў шляхецкім праваслаўным асяродзьдзі па-беларуску ў першай палове XVII стагодзьдзя. Дарэчы, паводле маіх падлікаў, у гэты час каля трэцяй часткі дакумэнтаў Мэтрыкі ВКЛ пісалася кірыліцай, па-беларуску. Першая палова XVII стагодзьдзя — час росквіту старабеларускага друку й літаратуры, галоўным спажыўцом якой была шляхта. Зьмены ў сьвядомасьці літоўскай шляхты адбыліся ў выніку войнаў сярэдзіны XVII стагодзьдзя. Пратэстантаў на чале з кланам слуцка-біржанскіх Радзівілаў зьвінавалі ў здрадзе на карысьць Швэцыі, праваслаўных на чале з Агінскімі і Статкевічамі — у калябарацыі з маскалямі. У выніку некаталіцкая шляхта была выціснутая з уладных структураў каталіцкімі магнацкімі кланамі Пацаў, нясьвіскіх Радзівілаў, Сапегаў. Апошні сэнатар Рэчы Паспалітай, які ня быў каталіком, Аляксандар Агінскі, памёр у 1667 годзе. Вынікам стала амаль татальнае добраахвотна-прымусовае навяртаньне дысыдэнцкай шляхты ВКЛ у каталіцтва , занепад старабеларускага друку, мовы й культуры. Менавіта тады, у другой палове XVII стагодзьдзя, і адбыліся значныя зьмены ў мэнтальнасьці літоўскай шляхты ад ліцвацэнтрызму да польскага рэгіяналізму, формулай якога стала: "gente Lithuanus (Ruthenus), natione Polonus".

Выклікае сумнеў спроба аўтара аддзяліць мову справаводзтва ВКЛ ад гутарковай мовы ліцьвінаў і "рускай" мовы старабеларускай літаратуры (сс. 18—20). Першую мову аўтар называе, у поўнай адпаведнасьці зь летувіскай гістарыяграфіяй, "афіцыйнай славянскай мовай" (Chancellery Slavonic). Другую Снайдэр называе "рускай мовай" ВКЛ (Ruthenian). Між тым летувіская паводле паходжаньня дэфініцыя "афіцыйная славянская мова" — гэта недасканалая, далёкая ад крыніцаў мадэрнізацыя, адзіная мэта якой — зарэтушаваць ролю беларускага этнасу ў гісторыі ВКЛ. У статутах ВКЛ, як і іншых актах, гэтая мова называецца стваральнікамі тэкстаў і яе носьбітамі "рускай" на ўзор мовы літаратуры ВКЛ і прыватнага ліставаньня шляхты. Сёньня сярод філёлягаў гэтую мову прынята называць старабеларускай, бо створаная яна была на падставе беларускіх дыялектаў. Натуральна, у старой пісьмовай мове нашай шляхты ў параўнаньні з вуснай шмат лацінізмаў, іншых запазычаньняў. Як любая штучная мова, створаная адукаванай элітай, менавіта ў гэтым яна адрозьнівалася ад народных дыялектаў і штодзённай гутарковай мовы шляхты і месьцічаў. З прычыны прыпыненьня сталай пісьмовай традыцыі ў XVIII стагодзьдзі сучасная беларуская літаратурная мова ў ХІХ стагодзьдзі стваралася цалкам на падставе народных дыялектаў. Таму сучасная літаратурная мова дастаткова адрозьніваецца ад мовы старабеларускай, але не

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



настолькі, каб філёлягу пачаць сумнявацца ў іх генэтычнай роднасьці[5]. Можна казаць, што старабеларуская мова адрозьніваецца ад сучаснай беларускай мовы, як старапольская мова адрозьніваецца ад сучаснай польскай мовы. Гэты відавочны факт прывёў да таго, што некаторыя летувіскія гісторыкі пачалі замест дэфініцыі "афіцыйная славянская мова" карыстацца навуковым паняцьцем "старабеларуская, альбо русінская мова" (напрыклад, Станіславас Лазутка).

Адной з аўтарскіх праблемаў сталі недастатковыя веды летувіскай гістарыяграфіі. Як прызнаўся аўтар, летувіская мова — адзіная з шэрагу неабходных дзеля такога дасьледаваньня, якою Снайдэр валодае слаба (с. X). У выніку ў кнізе кепска прадстаўленая Летувіская Ковенская рэспубліка 1918—1940 гадоў, яе палітыка ў адносінах да Вільні. Няма зьмястоўнай інфармацыі пра летувіскі культурны рух у Вільні 1905—1939 гадоў, які не саступаў па значнасьці беларускаму. Няма інфармацыі пра кантакты і супрацоўніцтва летувіскіх нацыяналістаў зь беларускімі дзеячамі (урадам Ластоўскага). Бяз гэтага кантэксту зьмест другой і трэцяй частак першага падразьдзелу здаецца няпоўным.

Паказальна, што высокі ўзровень ведаў дазволіў Снайдэру праігнараваць "жамойцкую" тэорыю папулярнага беларускага гістарычнага міту ВКЛ. Сапраўды, яна не вытрымлівае (дарэчы, як і летувіскі міт ВКЛ) крытыкі. Дастаткова зірнуць на мапу ВКЛ, каб убачыць, што найбуйнейшае балцкае места ВКЛ Коўна знаходзілася ў Літве, а не ў Жамойці. Што, акрамя Жамойці, ліцьвіны-балты жылі ў шэрагу "літоўскіх" паветаў ВКЛ, такіх, як Упіцкі, Вількамірскі, Ковенскі, часткова ў Троцкім і Віленскім. Гэтыя абшары гістарычнай Літвы былі заселеныя балтамоўнай шляхтай і сялянамі. Дастаткова пагартаць каталёгі крыніцаў ВКЛ, каб даведацца, што ў Літве XVII стагодзьдзя выдаваліся кніжкі на "літоўскай" балцкай мове і што менавіта гэтак ("літоўскаю") гэтую мову называла эліта балцкіх паветаў Літвы.

Іншая справа, што шляхта славянскай часткі Літвы таксама лічыла сябе ліцьвінамі (напрыклад, славуты беларускі пісьменьнік Хведар Еўлашэўскі, наваградзкі пратэстант, сын праваслаўнага ўладыкі Пінскага), а беларускую мову звала часам "літоўскай"[6]. Такім чынам, панятак "Літва" не супадаў зь беларускай ці летувіскай этнічнай групай ВКЛ, а панятак "ліцьвін"/"літоўскі", будучы палітонімам, выкарыстоўваўся абедзьвюма этнічна рознымі групамі шляхты. Факт існаваньня ў Літве раньняга Новага часу дзьвюх "літоўскіх" моваў (славянскай і балцкай паводле паходжаньня) зафіксавалі падарожнікі ў ВКЛ, напрыклад маскоўскі амбасадар Фёдар Куракін ды славацкі лютэранскі пастар Даніэль Крман. Іншая справа, што продкі балтамоўных ліцьвінаў складаюць меншасьць сучаснай летувіскай нацыі, створанай на жамойцкай этнічнай аснове пры манапольнай адаптацыі апошнімі супольнай культурнай спадчыны Літвы, у якой няма месца для беларусаў.

З важных англамоўных працаў апошняга часу аўтар абмінуў выдатную манаграфію фінскага гісторыка Ёханэса Рэмі пра "польскі" студэнцкі рух у Расейскай імпэрыі 1832—1863 гадоў, які, як высьветліў аўтар, фактычна быў польска-беларуска-летувіска-ўкраінскі[7]. Нагадаем таксама важны для вывучэньня ролі ўніяцкай царквы для беларускага руху XIX стагодзьдзя артыкул амэрыканскага гісторыка Джэймза Фліна. Чамусьці аўтарам забытая клясычная праца пра нацыятварэньне на ўсходзе Эўропы чэскага гісторыка Міраслава Гроха, якая вытрымала два ангельскія перавыданьні[8]. Між тым Міраслаў Грох робіць шэраг важных высноваў у пытаньні сацыяльнага паходжаньня дзеячоў летувіскага руху XIX стагодзьдзя. Паводле падлікаў Гроха, толькі 4% летувіскіх дзеячоў паходзілі з шляхты (с. 89). Складзеная Грохам мапа месцаў нараджэньня дзеячоў руху (с. 93) даводзіць, што ніводзін зь летувіскіх дзеячоў XIX стагодзьдзя не нарадзіўся ў Вільні ці на Віленшчыне. Праца чэскага гісторыка выклікала крытыку летувіскіх гісторыкаў.

На жаль, па ўсіх вышэйзгаданых праблемах Беларусь дагэтуль ня мае сур'езн дасьледаваньняў. Большасьць беларускіх гісторыкаў "застылі" на ўзроўні мэтада праблемаў нацыянальнай гістарыяграфіі пачатку XX стагодзьдзя. Напрыклад, г вялікай ролі Вільні для беларускага нацыяналізму дасьледаваньняў сярэднявеч Вільні, сьвету віленскіх беларускіх месьцічаў раньняга Новага часу, старабеларус культуры Вільні, сацыяльнай структуры беларускага віленскага руху, дзеяч віленчукоў няма. Веды беларускай гісторыі Вільні надалей застаюцца на ўзро папулярных дэкляарацый нашаніўскага пэрыяду. Тая самая праблема існуе гістарыяграфіі ВКЛ, БНР і БССР 1920-х гадоў — трох кітоў дзяржаўнасьці Белар падмурку гістарычнага права беларусаў на ўласную дзяржаву й паважны пасад у ся эўрапейскіх народаў. Пакуль у краіне абараняюцца дзясяткі тэматычна неактуальных тэматыцы гістарычных дысэртацый, частка інтэлектуалаў Эўропы і Расеі ўва Рэспубліку Беларусь за выпадковае, недарэчнае й штучнае ўтварэньне, а беларуск нацыю — як негістарычнае насельніцтва на землях Літвы. Праца амэрыканск навукоўца Цімаці Снайдэра адна зь першых, якая дапамагае разбурыць гэты вел адмоўны для нас стэрэатып на Захадзе.

Наяўнасьць агромністых лякунаў у беларускай гістарыяграфіі ўскладніла працу амэрыканскага гісторыка. Тым ня менш, аўтар змог пераадолець "супраціў" матэрыялу. Карціна беларускага руху XIX стагодзьдзя выпісаная дакладна і арыгінальна. Заўважым амаль поўную адсутнасьць у працы Снайдэра фактычных памылак што да беларускай гісторыі — зьява рэдкая для амэрыканскай гістарыяграфіі. Памылковае толькі цьверджаньне пра паходжаньне Мітрафана Доўнара-Запольскага зь віленскай шляхты (с. 44). Насамрэч гісторык нарадзіўся далёка ад Вільні, у шляхецкай сям'і былога Рэчыцкага павету Менскага ваяводзтва.

Абазнанасьць аўтара ў беларускай гісторыі выклікае пытаньне, якой літаратурай карыстаўся Снайдэр. У бібліяграфіі багата прадстаўленая сучасная польская беларусістыка. Гэты факт сьведчыць пра ключавую ролю сучасных польскіх вучоных у "адкрыцьці" гісторыі і культуры Беларусі для Захаду. Шмат спасылак на англамоўныя працы беларускіх эмігрантаў Мікалая Вакара, Івана Любачкі, Яна Запрудніка, Вітаўта і Зоры Кіпель, Яна Садоўскага, а таксама ізраільскага навукоўца Мошэ Альтбаўэра, амэрыканца Джона Стэнлі, знанага ангельскага беларусіста Арнольда МакМіліна. Знаёмыя амэрыканскаму гісторыку й беларускія публікацыі першакрыніцаў: пераклад Бібліі і прадмовы Скарыны, Статуты ВКЛ 1529 і 1588 гадоў, творы беларускай літаратуры XIX стагодзьдзя, пераклад Браніслава Тарашкевіча "Пана Тадэвуша". Зь беларускіх часопісаў паважнае месца займае "Беларускі гістарычны агляд" з артыкуламі Соф'і Кузьняевай, Аляксандра Смаленчука ды іншых аўтараў. Сярод беларускіх манаграфій — працы Мітрафана Доўнара-Запольскага, Аляксандра Цьвікевіча, Антона Луцкевіча, Галіны Дзербінай. Аўтар карыстаўся таксама работамі Адама Мальдзіса, Міхаіла Біча, Уладзімера Ладысева, Пятра Брыгадзіна. Гэта сьведчыць, што сёньня нават геаграфічна далёкі ад Беларусі навуковец пры жаданьні можа знайсьці ўсю неабходную базавую інфармацыю пра гісторыю нашай Радзімы. У падзяках вучоным, якія дапамаглі Снайдэру парадамі пры падрыхтоўцы працы, ён згадвае добрым словам вядомых у сьвеце беларусістаў Адама Мальдзіса й Яна Запрудніка.

Кніга Цімаці Снайдэра не стварае чарговых мітаў, такіх папулярных сёньня сярод вялікай часткі беларускіх — як пралукашэнкаўскіх, так і нацыянальных — гісторыкаў. Што да мэтадалягічнага ўзроўню працы, дык яна можа быць узорам для беларускіх дасьледнікаў. Варта перакласьці ды выдаць гэтую кнігу па-беларуску.



# "З Богам кантрактаў не заключаюць"

На пачатку года ўбачыў свет эпічны твор Васіля ЯКАВЕНКІ "Надлом". Ён выйшаў у прэстыжнай серыі "Беларускі гістарычны раман" і выдадзены пісьменніцкім выдавецтвам "Літфонд".

Падзея, адразу скажам, няштатная: па-першае, апошнім часам беларускія выдавецтвы не часта радуюць чытачоў новымі кнігамі, а па-другое, Васіль Якавенка добра вядомы нам як публіцыст, які шмат увагі надаваў вострым сацыяльным і экалагічным праблемам.

Прапануем увазе чытачоў гутарку журналіста Аляксандра Дабрынеўскага з аўтарам рамана.

- Спадар Васіль, на прэзентацыі кнігі "Надлом" у Белпедуніверсітэце імя Максіма Танка ваша творчая праца атрымала ацэнку, пра якую Вы, мусіць, і самі не марылі...

- Шчыра кажучы, не чакаў. Працуючы над творам, я адчуваў, што раблю нешта патрэбнае і важнае. Яшчэ адчуваў грунтоўнасць фактуры, усведамляў, наколькі стракаты, глыбока кантрастны і шматпланавы ў мяне матэрыял. Але ж не быў упэўнены, што гэты матэрыял я неяк улагоджу, упіхну, укладу ў рамкі сюжэта, які быў таксама чымсьці няпэўным. Непакоіўся за сюжэт і яшчэ багата за што.

Нарэшце, кніга выйшла. і тут прэзентацыя - вух! Сумненні адпалі. Твор, вы чулі, быў ацэнены - дай Божа так кожнаму! Літаратуразнаўцы аднеслі яго да з'явы ў беларускай гістарычнай і сацыяльна-філасофскай літаратуры. Прынамсі, гэтага тэзіса, выказанага прафесарам Аляксеем Рагулем, ніхто не аспрэчваў, наадварот, мае калегі-пісьменнікі і навукоўцы прыводзілі ўсё новыя і новыя доказы ідэйных і мастацкіх вартасцей твора, а Святлана Явар потым назвала гэту імпрэзу "захапляючым урокам літаратуры".

- Вас цанілі як майстра грунтоўнай, вострай публіцыстыкі - мулкай, колкай для ўлад. Спрабавалі яшчэ свае сілы ў драматургіі... Калі ж Вы, спадар Васіль, адчулі той штуршок або імпульс, які зварухнуў, падняў Вас на гэты эпічны і маштабны твор?

- Сапраўды, пісьменніцкай публіцыстыцы я аддаў жыццё, хоць не лішнім будзе зазначыць, што ўжо першыя мае мастацкія нарысы і апавяданні з натуры, як "Вясёлка на гліне" або "Дарога цераз гаць", былі заўважаны і прызнаны ў літаратурным асяроддзі. Вопытныя пісьменнікі тады глядзелі на мяне з непрыхаванай цікаўнасцю, і я скурай сваёй адчуваў: чакаюць, чакаюць ад мяне чагосьці незвычайнага. Аднак мне ўсё чагосьці неставала, каб рушыць далей, і я з года ў год працягваў уздымаць глебу на сваіх публіцыстычных гонях. Нарэшце, захапіла тэма нашых беларусаў за кардонам, іх сум, іх нэндза ў адарваным ад радзімы асяродку, разам з тым - высокія чалавечыя якасці. Будучы рэдактарам газеты "Набат", я ініцыіраваў нават абмеркаванне няпростых дачыненняў і грамадзянскага даверу да нашай дыяспары за мяжой. На гэту тэму напрыканцы 1992 года мы правялі "круглы стол" з кіраўніцтвам КДБ.

Я доўга насіў у душы цікавасць і неспакой за гэтых людзей. Іх дзесяцігоддзямі не разумелі, ад іх адгароджваліся высокай камуністычнай сцяной. Як парушыць гэту сцяну? У час роздуму тое, што мяне хвалявала, асвяцілася яшчэ глыбей - нібы яркая іскарка запалілася там, за мяжой, у штаце Пенсільванія, пранеслася над акіянам і ўпала недзе ў Еўропе. Акурат на мястэчка Моталь... Запаліла гэту іскру (альбо нават сама адыграла ролю іскры) Марыя Дзямковіч. Яе дзяцінства прайшло ў Моталі. І цяпер яна, ужо загартаваная жыццём жанчына, штораз выказвала жальбу, не саромелася слёз і плакала, толькі не па бацьку, а па свайму дзядулю-маталяніну Пятру Рамановічу (Пісарчуку). Яго зламысная заўчасная смерць не хацела заставацца ў мінулым і не пакідала яе, штораз вярэдзіла душу. Смерць дзядулі Пятра ішла, бадай, побач, больш за тое - цягнула па жыцці яе доўгую чорную баразну.

Я пайшоў па следзе і неўзабаве залез у такую гушчу кіпучую! Самых розных падзей, драм, трагедый, пакручастых лёсаў там было цераз край. Многае бачылася адметным, характэрным для ўсёй краіны, тыповым. Я выбіраў герояў, але прымушаць іх дзейнічаць ужо не трэба было - яны самі дзейнічалі і вялі мяне за сабой. Таму на прэзентацыі кнігі, відаць, і справядліва заўважана, што ў творы не відаць аўтара - ён стаіць недзе за спінаю ў герояў.

- Паводле агульнага прызнання, Ваш твор жорсткі на раскрыццё праўды жыцця. Прычым у рамане раскрыты як савецкі бок, так і супрацьлеглы - варожы. Але ж у саміх характарах, вельмі няпростых, рэзкіх кантрастаў няма, няма падзелу на белае і чорнае. Здаецца, Вы прынцыпова адышлі ад вядомай савецкай традыцыі, ад сацрэалізму. А калі гэта так, ці не варта лічыць, што сваім гістарычным раманам "Надлом" Васіль Якавенка паклаў новы напрамак у айчыннай літаратуры?

- Я не думаў пра гэта, але буду рады, калі ваша здагадка пацвердзіцца. Адно цяпер слова за крытыкамі. Сапраўды, я адышоў ад ранейшай традыцыі і прадэманстраваў у творы грамадзянскі, надкласавы падыход, больш гуманны і самы гуманны, справядлівы ды шчыры ў адносінах да людзей - герояў, якімі населена апавяданне. У мяне, за рэдкім выключэннем, дзейнічаюць рэальныя гістарычныя асобы. Таму і фантазіяваць дужа не выпадала.

- Уражваюць вобразы, якія былі незнаёмыя нам дагэтуль - Даніка Плюнгера, Вільгельма Кубэ... Першы - камандзір партызанскага атрада і як бы савецкі патрыёт, такіх шмат і цяпер. Другі - гаўляйтэр Беларусі... Яны нечаканыя, як падман, як містыфікацыя ці што... Мне здаецца, гэтыя героі ўспрымаліся б больш спакойна, лагічна, прывычна, калі б памяняць іх месцамі, што немагчыма, канешне. Вы згодны? Смеяцеся... Ці не выкліча гэта нараканні чытачоў?

- Нараканні некаторых чытачоў магчымыя. Мяне нават папярэджвалі, маўляў, чакай, браце, выбуху! Аднак у гэтым літаратурным ілюзіёне няма прыхамаці аўтара. Бо ў адным і другім выпадках я карыстаўся дакументамі. Мне пашанцавала як на дакументы, так і на сведчанні людзей. Адно ваша пытанне лішні раз пацвярджае, што я не падзяляў і не падзяляю ў творы людзей на сваіх і чужых. У кожным я імкнуўся бачыць чалавека, які дзейнічаў ці дзейнічае згодна з абставінамі і якасцямі сваёй душы. Адсюль і нечаканыя фарбы, і, так бы мовіць, змяшчэнне эфектаў, нечаканы каларыт, асаблівa для Кубэ. Дадам - сапраўдны чалавечы каларыт! Бо гестапаўцы бачылі ў Кубэ ворага не меншага, чым у партызанах.

- Але ж за ўдачу многія лічаць і традыцыйныя, паўнакроўныя, яркія вобразы - Пятра Рамановіча, яго сына Барыса, жанчын, у тым ліку Марыі, за развіццём і ростам якой Вы прасачылі ад самога яе нараджэння. Уся радзіна Пятра з любоўю выведзена, выпеставана аўтарам у родным для іх сялянскім асяроддзі. Адкуль, уласна, Вы так добра ведаеце побыт вёскі?

- Я скажу, мяне самога нарадзіла вёска. Толькі было гэта не на брэсцкім, а на гомельскім Палессі. У душы, відавочна, я селянін і дагэтуль. Пазней, працуючы геолагам у розных экспедыцыях, таксама нямала пацёрся па вёсках. Затым, стаўшы публіцыстам,

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018



## Узнагарода суайчыньніку ў Польшчы

Днямі споўнілася 80 гадоў аднаму з заснавальнікаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы (БГКТ), аднаму з ініцыятараў стварэння музея беларускай культуры ў горадзе Гайнаўка -- **Кастусю Майсені.**

З нагоды юбілею ў Гайнаўцы адбылася ўрачыстасць, у якой удзельнічалі прадстаўнікі мясцовых уладаў, Падляскага ваяводства і Гайнаўскага павета. Таксама прысутнічалі прадстаўнікі і беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, мясцовыя дзеячы культуры, моладзь.

Прысутныя,, адзначалі вялікую ролю юбіляра ў фармаванні і развіцці беларускага грамадскага руху ў Польшчы. Падкрэслівалі яго значны асабісты ўклад у стварэнне і будаўніцтва музея і цэнтра беларускай культуры на Беласточчыне.

Павіншаваць К. Майсеню прыехалі пасол Беларусі ў Польшчы Павел Латушка і Генеральны консул Беларусі ў Беластоку Леанід Каравайка. Пасол зачытаў пастанову ўрада Беларусі аб узнагароджанні К. Майсені Ганаровай граматай? Савета Міністраў Беларусі за шматгадовую дзейнасць па захаванню і развіццю беларускай культуры на Беласточчыне, вялікі асабісты ўклад ва ўмацаванне беларуска-польскіх культурных сувязяў...

Выдавец "Беларускага Дайджэсту" з сям'ёй віншуе Спадара Кастуся Майсеню з 80-годзьдзем і жадае яму добрага здароўя ды ўсяго найлепшага ў жыцьці...

## Паломніцтвы на Грабарку

Прыблізна адна тысяча праваслаўных паломнікаў вырушыла зь Беластоку ў 18 Агульнапольскім пешым паломніцтве на сьвятую Гару Грабарку.

Паломнікі, пераважна моладзь зь Беластоцка-Гданскай епархіі, але й таксам зь Беларусі й Калінінградзкай вобласьці... Там прымуць удзел у двухдзённых урачыстасьціях Гасподняга Зьмяненьня- Спаса. Традыцыйна на чале паломнікаў ідуць мужчыны, якія нясуць некалькімэтровы драўляны крыж. Меншыя крыжы нясуць таксама паасобныя паломнікі, каб у розных задумах паставіць іх на сьвятой гары.

Традыцыя паломніцтваў на Грабарку распачалася ў 18 стагоддзі, калі на Падляшшы панавала зараза. Хворыя прыбыўшы на гару Грабарку цудоўна вылячыліся. З таго часу на сьвятой гары пачалі ставіць драўляныя крыжы, якія зьяўляюцца падзякай за атрыманую ласку, альбо просьбай да Бога. На Грабарку адпраўляюцца паломніцтвы таксама зь іншых праваслаўных прыходаў. Упершыню ў гісторыі вырушыла група паломнікаў з Варшавы.

*************************************************

## Колькасць насельніцтва Беларусі за шэсць месяцаў знізілася на 27 тысяч чалавек

**БЕЛТА**

За шэсць месяцаў гэтага года ў Беларусі нарадзілася 43.383 дзіцяці. Гэта на 350 дзяцей больш, чым за адпаведны мінулагодні перыяд. Колькасць памёршых за студзень—чэрвень у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года знізілася на 3 працэнты — 73.484 чалавекі. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу, у першым паўгоддзі колькасць насельніцтва краіны зменшылася на 27 тысяч чалавек і склала на 1 ліпеня 9 мільёнаў 871,6 тысячы. Самы высокі паказчык натуральнага змяншэння насельніцтва зарэгістраваны ў Віцебскай вобласці - 8,9 чалавек на 1000 жыхароў. А самы нізкі — у Мінску. Ён складае 0,7 чалавек на 1000 жыхароў.

*************************************************

## Выказалі спачуванні сабе на бяду...

Смерць народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава нікога не прымусіла застацца ўбаку. Многія мастаўчане праз мясцовы друк выказалі свае спачуванні родным і блізкім з прычыны смерці пісьменніка.

Спачуванні выказвалі як простыя грамадзяне, так і калектывы школ, дзіцячых садкоў, бібліятэк, грамадскія арганізацыі і іншыя. Тэксты былі змешчаны ў мясцовай незалежнай газеце "Тэлескоп". Не засталіся ўбаку і людзі, якія займаюць дзяржаўныя пасады. Аднак, адразу пасля выхаду газеты пачаліся разборкі: пошукі ініцыятараў спачуванняў на смерць Васіля Быкава. Кіраўнікоў арганізацый і ўстаноў запатрабавалі напісаць тлумачальныя запіскі.

Асаблівае рвенне ў пошуках спачувальнікаў праявілі загадчык аддзела адукацыі райвыканкама Мікалай Ярмак, загадчык аддзела культуры Уладзімір Свістуноў. Ініцыятарам падобных разборак стала намеснік старшыні райвыканкама Таісія Мурына.

У Мастах яшчэ гнездзяцца сталінскія халуі...




Беларуская праваслаўная царква сьв. Еўфрасіньні Полацкай

у Саўт Рывэр, Ню Джэрзі

ветліва запрашае Вас, Вашу сям'ю і Вашых знаёмых на сьвяткаваньне беларускіх традыцыяў. У гэтым годзе Парахвіяльны К-т ладзіць 5-ты

**"Беларускі Фэстываль — 2003"**

**у суботу 6-га верасьня, 2003 г.**

Пачатак: 11 раніцы да 8 вечара.

Прыходзьце па смачныя стравы. Будуць гучэць беларускія фальклёрныя мэлёдыі і прадавацца сувэніры.

Фэстываль адбудзецца ня гледзячы на пагоду — "Ці сонца, ці дождж!"

**Пабачымся на Фэстывалі!**


## БЕЛАРУСКІЯ І РАСЕЙСКІЯ ПІСЬМЕНЬНІКІ ЗАКЛІКАЛІ РАСЕЮ СПЫНІЦЬ РУСІФІКАЦЫЮ ІХ КРАІНАЎ

Беларускія і ўкраінскія пісьменьнікі зьвярнуліся з сумесным зваротам да расейскіх уладаў з заклікам спыніць русіфікацыю ў Беларусі й Украіне. Ліст у падтрымку гэтай ініцыятывы накіравала й дэпутацкая група "Рэспубліка".

Супольны зварот беларускіх і ўкраінскіх пісьменьнікаў накіраваны на адрас Уладзімера Пуціна, у Дзяржаўную Думу, ва ўрад і дзеячам навукі й культуры Расеі. "У выніку адкрытай палітыкі русіфікацыі цяперашніх уладаў, запазычанай у чыноўнікаў царскай Расеі і Савецкага Саюзу, мноства дзяцей беларусаў пазбаўлены магчымасьці вучыцца на сваёй мове. Толькі за апошні год ў краіне зачыненыя 152 беларускія школы," – гаворыцца ў звароце.

Беларускія й украінскія пісьменьнікі заклікаюць прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі Расеі ўзьняць свой голас ў падтрымку моваў і культураў народаў Украіны і Беларусі, а таксама выступіць супраць спробаў гвалтоўнай русіфікацыі насельніцтва ў суседніх краінах.

*************************************************

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Факультэт беларускай мовы — у Іркуцкім лінгвістычным універсітэце

**Марат ГАРАВЫ**

У наступным годзе ў Іркуцкім лінгвістычным універсітэце (Расія) плануецца адкрыць факультэт беларускай мовы і літаратуры. Пра гэта паведаміў старшыня Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, выкладчык гісторыі Алег Рудакоў.

Паводле яго слоў, цяпер распрацоўваецца праграма навучання для студэнтаў, якія пасля заканчэння ВНУ поруч з адной з асноўных замежных будуць выкладаць беларускую мову і літаратуру ў рэгіёнах Іркуцкай вобласці. «Бо ў нас вельмі шмат вёсак, заснаваных перасяленцамі з Беларусі. І зараз, згодна з дзеючым заканадаўствам Расійскай Федэрацыі, у школьныя праграмы можа быць уключана вывучэнне роднай мовы. Аднак гэтае пытанне немагчыма вырашыць без спецыялістаў», — сказаў А. Рудакоў.

Вялікую цікавасць у маладых беларусаў вобласці выклікаюць таксама міжнацыянальныя дыскатэкі, дзе ў асноўным гучыць сучасная беларуская музыка, прадстаўленая гуртамі «Палац», «NRM» і «Крама». «Пад сучасную музыку моладзь вучыцца выконваць свае старажытныя народныя танцы», — сказаў А. Рудакоў.

Акрамя таго, паведаміў ён, на адной з мясцовых FM-станцый з лютага 2004 года плануецца адкрыць праграму «30 хвілін беларускага року», каб знаёміць слухачоў з беларускай альтэрнатыўнай музыкай.

Згодна са звесткамі апошняга перапісу насельніцтва Расіі, з Іркуцкай вобласці на 5 мільёнаў насельніцтва прыпадае 50 тысяч беларусаў.

*************************************************

# Нацыя сьпіваецца?

**Мікола ДЗЯБЁЛА /З-да/**

За апошнія 10 гадоў колькасць афіцыйна зарэгістраваных алкаголікаў у Беларусі павялічылася з 30 да 140 тысяч чалавек

Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі б'е трывогу. Алкагалізацыя насельніцтва нашай краіны ідзе такімі імклівымі тэмпамі, што не толькі істотна пагаршае крымінагенную сітуацыю, але і нясе ўсё больш рэальную пагрозу існаванню самой нацыі. Як адзначыў падчас калегіі МУС намеснік міністра ўнутраных спраў Аляксандр ШЧУРКО, сярод людзей, якія злоўжываюць алкаголем, смяротнасць у 2 разы большая, чым у непітушчых. Сярэдняя працягласць жыцця алкаголіка на 20 гадоў меншая, чым у чалавека, які не ўжывае спіртнога. Нярэдка здараюцца выпадкі атручэння рознымі сурагатамі. Летась у выніку алкагольнага атручэння ў нашай краіне памерла больш за 2 тысячы чалавек, прыкладна столькі ж людзей у нецвярозым стане скончылі жыццё самагубствам. І гэта далёка не поўны спіс страт, якія нясе беларуская дзяржава ад шкоднага ўплыву «зялёнага змея».

Мноства адурманеных алкаголем людзей гіне ў выніку дарожна-транспартных здарэнняў (у мінулым годзе зафіксавана 786 такіх ДТЗ), няшчасных выпадкаў (летась загінулі амаль 4,5 тысячы чалавек), падчас сямейна-бытавых канфліктаў (за 2002 год учынены 873 злачынствы, у тым ліку 144 забойствы). Увогуле п'янства аказвае вельмі моцны ўплыў на крымінагенную сітуацыю ў Беларусі. Паводле інфармацыі генерала Шчурко, летась у стане алкагольнага ап'янення было ўчынена прыкладна 70 працэнтаў усіх цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў і кожны другі разбойны напад.

Трывожная тэндэнцыя захоўваецца, на жаль, і сёлета. У гэтым годзе колькасць забойстваў і замахаў на забойства, учыненых у нецвярозым стане, павялічылася ўжо на 20 працэнтаў, згвалтаванняў — на 10, грабяжоў — больш як на 30 працэнтаў, разбояў — на 40 працэнтаў. І цалкам верагодна, што гэтая трывожная тэндэцыя захавеацца надалей. Бо да спіртных напояў усё часцей прызвычайваюцца непаўналетнія. За першыя два месяца гэтага года больш як палова падлеткаў, якія парушылі закон, знаходзіліся на момант учынення злачынства ў нецвярозым стане. Сацыяльную базу для папаўнення войска непаўналетніх злачынцаў ствараюць і бацькі-алкаголікі. Зараз на ўліку ў інспекцыях па справах непаўналетніх больш за 7 тысяч сем'яў, у якіх бацькі злоўжываюць спіртнымі напоямі. Усяго ж, як было адзначана на калегіі, у Беларусі афіцыйна зарэгістравана 140 тысяч хворых на алкагалізм. Яшчэ 10 гадоў таму назад такіх асоб было 30 тысяч.

Сярод прычын імклівай алкагалізацыі насельніцтва былі названыя і пагаршэнне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, і адсутнасць спрыяльных умоў для культурнага адпачынку, і слабая антыалкагольная прапаганда. Безумоўна, вырашыць гэтыя праблемы сіламі аднаго Міністэрства ўнутраных спраў немагчыма, хоць МУС у рамках сваёй кампетэнцыі робіць даволі шмат, каб папярэдзіць п'янства і алкагалізм. Спыніць імклівае наступленне «зялёнага змея» можна толькі намаганнямі ўсяго грамадства.

*************************************************

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018